PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (2103) Год XLI Беласток 1 верасня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



Ганна Кандрацюк

## На шляху адраджэння

**Паломніцтва адмяняе чалавека. Пасля набожнага, балючага вандравання, багамольны паломнік адраджаецца. Воблік ягоны ззяе святочнай радасцю і дабрынёй, а думкі залацеюць.**

Серада, 14 жніўня. Ад рання лаўлю інфармацыі ў беластоцкім радыё пра пачатак XI паломніцтва з Беластока на Святую Гару Грабарку. Пазней пакутую з-за даверу. Прыходзіцца даганяць паломнікаў і слухаць непрыстойныя каментарыі раззлаваных шафёраў, якія з-за паломніцтва апынуліся ў кіламетровых заторах.

За мной спяшаюць і іншыя вандроўнікі, таксама ахвяры радыёперадачы. З Агнешкай Хімік цалуемся тройчы на прывітанне. Зразу жа адчуваем сябе сардэчнымі сяброўкамі. Наш знешні выгляд таксама аб'ядноўвае нас. Абедзве маем на галовах хусткі і доўгія, цёмныя спадніцы. Агнешка — студэнтка матэматыкі, нясе невялікі крыж. Чацвёрты раз ужо ідзе яна на Грабарку.

— Пра кіламетры найлепш не думаць, — павучае мяне новая сяброўка. Спадарожнічаюць нам дождж і трывога. Паломніцтва даганяем за Кур'янамі.

Агнешка хоча запісацца ў групу айца **Гаўрыіла з Супраслі**. Там ідзе многа яе беластоцкіх сяброў. Сярод паломнікаў пераважае сімпатычная, сціплая моладзь. Дзве трэціны ўдзельнікаў — гэта жанчыны.

За айцом Гаўрыілам ідуць расспяваныя маладзёны і дзяўчаты. Складаюць яны *жоўтую групу*, пазначаную такімі ж знакамі і сцяжком. Дарэчы, кожная група, а ўсіх іх сем, пазначана сваім колерам і такім сцяжком. **Марк Масальскі**, галоўны арганізатар паломніцтва, гаворыць пра паўтары тысячы паломнікаў. Але ў кожным прыходзе прыстаюць усё новыя людзі. Здараюцца і самавольнікі, бо афіцыйнае ўдзельніцтва каштуе дзесяць злотых.

— Мы недзе згубілі свае значкі, адказваюць такія ахоўнікам парадку.

Перад Зверкамі першы прыпынак. Там здзяйсняецца ўрачыстая малітва ў гонар св. мучаніка Гаўрыіла Заблудаўскага. У час паломніцтва вандроўцы наведваюць па дарозе ўсе свае святыні і храмы. Каб намаліць іх яшчэ болей і праславіць, каб сустрэцца з мясцовымі вернікамі і падтрымаць іх у веры і надзеі. У Зверках неўзабаве пачнецца пабудова царквы. Тутэйшыя людзі сардэчна і гасцінна сустракаюць наша паломніцтва. Пасля гэтага, калі зноў выходзім здзяйсняць свой шлях, чую, як усё больш завязваецца і ахінае паўкіламетровую калону брацкая і добрая атмасфера. Паломнікі спяваюць расейскія рэлігійныя песні.

— Tak lubię te białoruskie, święte piosenki. — гаворыць ліцэістка Каська з Беластока. Каська не разбіраецца ва ўсходнеславянскіх мовах. Усе яны для яе беларускія. — I szczypią za duszę. — дадае сімпатычная паломніца.

Беластоцкая моладзь амаль поўнасцю польскамоўная. Зрэдку сустрэнеш сярод іх свядомых беларусаў, украінцаў ці расейцаў. Сваю прыстунасць праявілі адно лысыя маладзёны ў чорнай вопратцы, пазначаныя выявай трызуба. Але і яны паміж сабой гаварылі на польскай мове і вярнуліся дамоў пасля першага дня вандравання.

У Заблудаве, толькі побач царквы, вітае нас жменька прыхаджан. Пасля багаслужбы запрашаюць яны ўсіх на гарачы абед.

— Pielgrzymki są dobre dla ludzi biednych. — каменціруе ліцэістка Каська. — Przez cały czas jest dużo darmowego jedzenia.

У Заблудаве частуюць капустай з грыбамі, гарохавым супам, кампотам і яблыкамі. Апетыт узмацняе халоднае, дажджлівае надвор'е. Хлопец з Гарадка суцяшае прамоклых спадарожнікаў:

— Гэты дождж ад Бога, гэты дождж

*(працяг на стар. 9)*



Віталь Луба

## Без кампрамісу

Складаная эканамічная сітуацыя ў Беларусі і адсутнасць перспектывы на яе скорае паляпшэнне далі падставу кіраўнікам сямі партый розных палітычных спектраў выступіць да прэзідэнта з прапановай правесці пад патранажам Вярхоўнага Савета круглы стол з мэтай абмеркавання метадаў выхаду краіны з глыбокага крызісу. Аднак гэта прапанова моцна абурыла Аляксандра Лукашэнку, які палічыў яе атакай на асобу ўсенароднаабранага прэзідэнта. Падчас двухгадзіннай прамовы на сустрэчы з кіраўнікамі адміністрацыі ўсіх узроўняў і прадстаўнікамі працоўных калектываў Гродзеншчыны (якая двойчы перадавалася па радыё) кіраўнік дзяржавы даў сваю ацэнку сітуацыі ў краіне і падвергнуў вострай крытыцы ўсе „крайне рэакцыйныя сілы ў парламенце і грамадстве”, якія перашкаджаюць прэзідэнту ажыццяўляць яго выбарчую праграму. Лукашэнка моцна падкрэсліў, што ён, як прэзідэнт і кіраўнік дзяржавы, абавязаны выпаўняць волю народа і таму не будзе хадзіць ні на якія партыйныя пасядзелкі, ні на якія сталы: ні на круглыя, ні на многавугольныя, ні на квадратныя, а толькі будзе раіцца з народам, а не з тымі, якія, пераўвёўшыся ў „палітычную эліту”, узялі моду гаварыць ад імені народа. Дасталася і Вярхоўнаму Савету, які, паводле прэзідэнта, не працуе, а толькі займаецца палітычнай траскатнёй. А дэпутатаў, якія прабівалі закон аб трансплантацыі чалавечых органаў, назваў ён „господа дерьмократы”. У сувязі з планаванымі на восень давыбарамі ў Вярхоўны Савет і мясцовыя прадстаўнічыя органы, ён катэгарычна заявіў, што ніякіх выбараў не будзе.

У агні крытыкі гэтым разам, апрача дэпутатаў парламента, БНФаўцаў і дэмакратаў, апынуліся і камуністы, лідэры якіх падпісаліся пад зваротам аб правядзенні круглага стала. Праўда, Лукашэнка выказаў падзяку чэсным, радавым членам Партыі камуністаў Беларусі, якія адмежаваліся ад свайго цэнтральнага камітэта і шлюць яму заявы аб патрымцы, ды прыпомніў, чым у нядаўнім мінулым закончылася адарванасць камуністычных вярхоў ад масаў. Прамаўляючы, прэзідэнт адным залпам напалохаў грамадзян

*(працяг на стар. 4)*

*З выпадку 60-годдзя пісьменніка Сакрата ЯНОВІЧА сардэчна віншуем Юбіляра з выдатнай датай і зычым Яму моцнага здароўя і далейшых творчых поспехаў.*

*Рэдакцыйны калектыў „Нівы”*

# Мы прачыталі

*Bayer Full śpiewa, że wszyscy Polacy to jedna rodzina i to najlepiej oddaje piękno muzyki disco polo. Muzykę tę nazwano najlepszym interesem branży rozrywkowej obecnej dekady. Nagrywa się równie szybko jak sprzedaje. Na produkcji tej muzyki robią spektakularne kariery ludzie nie mający najczęściej nic wspólnego z rozrywkowym biznesem. Wśród właścicieli największych firm fonograficznych handlujących muzyką disco polo można znaleźć budowlańca, hodowcę kur, kierowcę i piłkarza. Ponieważ handel tym towarem odbywa się poza kontrolą instytucji finansowych — w remizach, bazarach, odpustach — interesem szybko zainteresowała się mafia.*

*Polityka, nr 35*

* * *

*Сёння Чэхія — адзіная пакуль краіна, дзе прыняты закон пра люстрацыю. Гэта адзіная краіна, дзе выбары апошняга часу не прывялі да ўлады людзей, якія нясуць адказнасць за ранейшы рэжым. У Беларусі праблема адказнасці пакуль што не пастаўленая на шырокае абмеркаванне. Уласцівыя ранейшаму рэжыму прыгнёт чалавечае асобы, бяспраўнасць і татальная хлусня кіраўніцтва дагэтуль не асуджаныя і таму працягваюць панаваць у нашым жыцці. Больш за тое, калі яно беспакаранае, прэтэндуе называцца дабром, хлусня — праўдай, а татальны кантроль дзяржавы над чалавекам — свабодай.*

*Наша ніва, н-р 16*

* * *

*Audycje, jakie można usłyszeć w Radiu Białystok, adresowane do mniejszości i emitowane wyłącznie w ich języku, bardziej dzielą niż łączą,* — сказаў шэф беластоцкага тэлебачання Казімеж Пуцілоўскі.

*Gazeta w Białymstoku, nr 194*

Зразумела, што калі б радыёперадачы былі на дзяржаўнай мове, ядналі б усіх палякаў, нягледзячы на іх нацыянальнасць. Найважнейшае — гэта „маральна-палітычная еднасць польскага грамадства". Tak trzymać! Спадзяемся, што ў тэлебачанні такія памылкі, як мова меншасці, у эфіры дапускацца не будуць.

* * *

*Выказваючы думку аб прапанаванай пэўнымі палітычнымі коламі ідэі правядзення „клуглага стала", за якім павінны сабрацца прадстаўнікі найбольш уплывовых палітычных партый, рухаў, плыняў, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што не бачыць у гэтым „круглым стале" ніякага сэнсу.*

*Голас Радзімы, н-р 33*

І слушна! Нейкія чужыя традыцыі хочуць прывалачы ў „дэмакратычную, трудалюбівую" рэспубліку праклятыя апазіцыянеры. А пайшлі вы вон!

* * *

*Znani i poważni bankowcy z Banku Gospodarki Żywnościowej — nadzieja polskiej bankowości — zapowiedzieli z dumą na konferencji prasowej nie tylko zyski zamiast strat, ale też zaprzestanie żebrania u polskich podatników, z których każdy, licząc z niemowlętami, dołożył do BGŻ prawie 60 zł. Zapowiedziano też zmianę wizerunku banku, jakby wstydzono się posądzeń o związki z pierwszą partią III Rzeczypospolitej, czyli PSL i jej niezastąpionym prezesem Waldemarem Pawlakiem. Tymczasem PSL jako partia chłopska nie tylko żywi lecz także broni. Politycy PSL przejęli pełną kontrolę nad handlem bronią, przejęli wszystkie instancje rządowe mające wpływ na zamówienia dla armii. PSL nie chce reformy systemu zarządzania gospodarką, obawiając się odcięcia związanych z tą partią central i spółek wysysających publiczne pieniądze.*

*Wprost, nr 32*

* * *

*Lepiej w kawiarni, przy piwie myśleć o kościele i Bogu, niż w kościele o piwie,* — раіць

*Kurier Poranny, nr 189*

* * *

*W społecznościach zbieracko-myśliwskich wzorcem były kobiety noszące na udach i pośladkach znaczne zapasy tłuszczu. Owa paleolityczna Wenus była chodzącą spiżarnią energii, niezbędnej do macierzyństwa i przetrwania. W średniowieczu tuszę traktowano jako dowód łaski Bożej — symbol bogactwa, piękna i szacunku dla Najwyższego. Obżarstwo było drogą do doskonałości kształtów. Barok ponownie wyniósł na piedestał bujne kobiety. A dziś jako ideał kobiecości lansuje się wychudzone sylwetki o kształtach dwunastoletnich chłopców i wmawia się, że są szczytem urody i seksapilu. Tym wychudzonym kształtom wstawia się czasem silikonowe piersi.*

*Polityka, nr 33*

„Абжыдлівасць", — як гавораць беластоцкія беларусы.

* * *

*W Białymstoku z powodzeniem przebiega akcja walki z pornografią. Grupy parafialne chodzą po sklepach i szpiegują. To same dewotki i stare dziady — skomentował 53-letni taksówkarz.*

*Kurier Poranny, nr 190*

Будзе гэта першая рэвалюцыя, якую выйгралі святошы.

# З мінулага тыдня

**Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь** пастанавіў вызваліць **Мечыслава Часноўскага** ад абавязкаў саветніка-пасланніка Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы ў сувязі з пераходам на іншую работу. Сваю дыпламатычную місію закончыў таксама консул Генеральнага Консульства РБ у Беластоку **Ігар Хадасевіч**. На гэту пасаду прызначаны **Павел Латушка**.

**Міністр Адам Дабраньскі** — кіраўнік Ведамства па справах ветэранаў і рэпрэсіраваных, паведаміў, што яшчэ ў гэтым годзе асобы, якія пацярпелі ад дэпартацыі на прымусовыя работы або ў лагеры працы III Рэйха і Савецкага Саюза, атрымаюць дадаткі да пенсій. Дакументы ад пацярпелых асоб будуць прымацца ў ветэранскіх арганізацыях, галоўным чынам у Таварыстве пацярпелых ад III Рэйха і ў Саюзе сібіракоў. Арганізацыі ў сваю чаргу дакументацыю сваіх членаў перададуць рэгіянальнаму бюро (з Беластоцкага і памежных ваяводстваў яно ў Беластоку) для канчатковага афармлення, згодна з законам ад мая г.г. Дзяржаўныя органы ў трохгадовы тэрмін маюць разгледзець хадайніцтвы ўсіх зацікаўленых асоб. У гэтым годзе кампенсацыю атрымаюць асобы, якім больш за 80 гадоў і інваліды I катэгорыі (каля тысячы асоб у Беластоцкім ваяводстве).

**Ваяводскую сельскагаспадарчую палату** сяляне Беласточчыны выберуць 29 верасня г.г. Гэтае самаўрадавае прадстаўніцтва земляробаў (са 102 членаў) у асноўным будзе прэзентаваць сельскагаспадарчае асяроддзе перад адміністрацыяй і іншымі арганізацыямі ў краіне і за мяжой. У ваяводстве створана ўжо 55 акруговых выбарчых камісій. Кандыдаты ў палату прымаюцца да 9 верасня. Каб зарэгістравацца, кандыдат павінен сабраць 50 подпісаў у сваю падтрымку.

**Беласток** вылучаецца значнай колькасцю ўгоддзяў у адміністрацыйных граніцах горада. Складаюць яны 29% усёй тэрыторыі — 2 613 гектараў. Апрача буйных спецыялістычных гаспадарак (напрыклад, гаспадаркі Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах ці цяплічнага камбіната па вул. 27 Ліпеня), Беласток налічвае 470 земляробаў, якія апрацоўваюць 1 492 гектараў. Штогод змяншаецца абшар гарадскіх угоддзяў. За пяць апошніх гадоў пад будаўніцтва жылля і дарог перададзена больш за 60 гектараў.

**Праграма рэгістрацыі медыцынскіх паслуг** будзе ўведзена ў гэтым годзе ў пяці гмінах Беластоцкага ваяводства: Бельск-Падляшскі, Дуброва-Беластоцкая, Саколка, Монькі і Сямятычы. Жыхары гэтых гмін атрымаюць кніжачкі медыцынскіх паслуг, у якіх будуць запісвацца гісторыі хвароб і выдадзеныя рэцэпты. Амбулаторыі не будуць ужо весці картатэк пацыентаў.

**У Заблудаве** адбыліся ўрачыстасці з выпадку 443 гадавіны атрымання горадам магдэбурскага права. Са шматлікіх культурных мерапрыемстваў удзельнікам святкаванняў найбольш спадабалася інсцэнізацыя з каралём Зыгмунтам Аўгустам, які прыбыў з актам надання гарадскога права.

**У Сувалках** раённая пракуратура прымяніла паліцыйны нагляд да асобы 65-гадовага пенсіянера, які, пагражаючы ўзарваннем прыхадскога будынка, патрабаваў ад сям'і настаўніка (настаяцеля) стараверскага прыхода ў Сувалках 5 тыс. зл. выкупу. Некараны дагэтуль пенсіянер быў арыштаваны паліцыяй пасля вызначэння тэрміну і месца, у якім трэба было пакінуць выкуп. Пракуратура высвятляе цяпер матывы дзеяння злачынца.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Размова А. Латышонка з а. Міхаілам Ільніцкім з Оўруча, што на Украіне.
- Рыгор Падляшскі пра парнаграфічныя элементы ў „Ніве".
- Пачатак школьнага года ў школах з беларускай мовай навучання на Беласточчыне.

# Весткі з Беларусі

### Выбары і рэферэндум

Дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання і мясцовых прадстаўнічых органаў улады адбудуцца 24 лістапада — такое рашэння 12 жніўня г.г. прыняла Цэнтральная выбарчая камісія. Але 15 жніўня, прамаўляючы ў Гродне, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка катэгарычна заявіў, што восенню ніякіх выбараў не будзе. Цікава, ці стрымае слова? У сваю чаргу прэзідэнт плануе правядзенне рэферэндуму 7 лістапада. Намеснік старшыні ВС Васіль Новікаў сказаў, што калі праект новай канстытуцыі дэпутаты атрымаюць для азнаямлення да сярэдзіны верасня, то працэдура вызначэння аптымальнага дня для ўсенароднага галасавання можа аказацца няпростай, паколькі да прапанаванага прэзідэнтам тэрміну грамадзяне могуць не паспець азнаёміцца з праектам новай канстытуцыі. Таму ВС можа зацвердзіць больш познюю дату рэферэндуму.

### Нарада замест круглага стала

Трохмесячная работа групы вучоных па распрацоўцы праграмы асноўных накірункаў сацыяльнага і эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года закончылася ў палове жніўня. 23 жніўня адбылося абмеркаванне асноўных палажэнняў праграмы з грамадскасцю Беларусі на сарганізаванай прэзідэнтам рэспубліканскай нарадзе. Адбылася яна пасля круглага стала на тэму выхаду краіны з крызісу, да ўдзелу ў якім заклікалі прэзідэнта лідэры сямі апазіцыйных партый. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ягоная нарада была „тым рэальным круглым сталом, за якім людзі будуць вырашаць галоўныя дзяржаўныя пытанні як дабіцца паляпшэння жыцця".

### Расіяне з прэзідэнтам

„Ідэя кіраўнікоў сямі партый перайсці ў атаку на прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку, — заявіла дыктар I праграмы Беларускага радыё, — выклікала ў грамадстве рэакцыю адваротную чаканням лідэраў, якія падпісалі зварот т.зв. круглага стала". Для падмацавання гэтага сцвярджэння чыталіся заявы ў падтрымку прэзідэнта, дасланыя м.ін. вучонымі Навуковага аб'яднання „Гістарычныя веды", ветэранамі вайны і працы Драгічынскага раёна, членамі праўлення Беларускага саюза імя Машэрава „Зніч". Арыгінальнасцю вылучалася тэлеграма палітсавета расейскага таварыства „Отчизна — честь", у якой у прыватнасці гаворыцца: „Не верце тым, хто цягне вас на ўсялякія круглыя сталы. Менавіта дзякуючы ім развалілася вялікая дзяржава, а на яе тэрыторыі льецца кроў і гуляе молах братазнішчальных войнаў. Накіруйце ўсіх балбатуноў і дэмагогаў не на круглы стол, а на ўборку ўраджаю. Расіяне з вамі".

### Праект на экспертызу

Праект змяненняў і дапаўненняў у канстытуцыю рэспублікі, якія распрацоўваюцца ў Адміністрацыі Прэзідэнта, плануецца апублікаваць у друку 3 верасня. Дакумент будзе перакладзены на тры замежныя мовы, каб накіраваць праект у прававыя інстытуты еўрапейскіх краін для правядзення незалежнай экспертызы.

### Адтэрмінаваны візіт

Візіт маршала Сейма Польшчы Юзэфа Зыха ў Менск перанесены на больш позні тэрмін. Па словах памочніка старшыні Вярхоўнага Савета Уладзіміра Улаховіча, адна з прычын пераносу — жаданне падняць статус візіту да афіцыйнага. Зараз рыхтуюцца дакументы па міжпарламенцкім супрацоўніцтве паміж абодвума парламентамі. Як стала вядома, сям'я маршала Зыха мае карані ў Беларусі, і таму акрамя Менска кіраўнік Сейма наведае Маладзечанскі раён.

### Цэрквы ў калгасах

Ордэнам святога благавернага князя Данііла Маскоўскага ўзнагароджаны старшыня калгаса „Авангард" Хоцімскага раёна Анатоль Анціпенка за актыўны ўдзел у будаўніцтве царквы святых Пятра і Паўла. Храм знаходзіцца ў вёсцы Ельня і ўзведзены ён у асноўным на сродкі калгаса і сіламі яго будаўнічай брыгады, якая і ўручыла ключы да царквы прыхаджанам. Гэта ўжо другі ў Магілёўскай вобласці старшыня калгаса ўзнагароджаны такім ордэнам. Летась Руская Праваслаўная Царква за такія ж заслугі адзначыла кіраўніка калгаса „Гігант" Бабруйскага раёна Міхаіла Левакова. Цяпер мясцовыя гаспадаркі дапамагаюць узводзіць цэрквы ў вёсках Галоўчын Бялыніцкага і Мышкавічы Кіраўскага раёнаў.

# Падружыць з Пружанамі

**Перад вайною ў маю вёску на Гайнаўшчыне, Тыневічы, прыязджалі з Пружанаў ганчары. Іхнія вырабы цаніліся больш за прадукцыю бліжэйшай Лукі. Для мяне Пружаны, гэта ўжо іншая дзяржава, пункт на карце або, у найлепшым выпадку — адно з аблезла-шэрых беларускіх мястэчак па дарозе з Полаўцаў у Менск. Не з'яўляюцца яны часткай майго штодзённага свету.**

З Пружанскім раёнам суседнічае Белавежская гміна. Праўда, гэтае геаграфічнае суседства не простае. Шчыльная дзяржаўная мяжа паспяхова ліквідуе ўсе спробы пастаяннага супрацоўніцтва. Кантакты між суседзямі рэдкія, аказіянальныя — ад свята да свята.

У нядзелю 4 жніўня жыхары Белавежы перасякалі мяжу хутка і камфартабельна. Пагранічнікі чыталі падрыхтаваны ім спісак, на якім — дзякуючы ветлівасці войта Станіслава Куявяка — апынуліся і мы з Юркам Ляшчынскім, павярхоўна аглядалі ўнутрыдзяржаўныя пашпарты (dowody osobiste) і накіроўвалі пехатой праз заараную паласу да беларускіх аўтобусаў. І хаця адна пані ўголас наракала на іх чысціню („a co. niech się uczą kultury"), не паменшыла яна тым самым энтузіязму грамады. Мне асабіста прыемна было назіраць, як у польскамоўнай да мяжы групе, раптам, быццам пад уздзеяннем чарадзейскай палачкі, амаль усе загаварылі па-беларуску.

Везлі нас з надзвычайнай пашанай — на чале кавалькады з чатырох аўтобусаў ехала міліцэйская машына з уключанай сіняй мігалкай на даху. Сустрэчныя аўтамабілі, каб даць нам дарогу, з'язджалі на абочыну пад самую канаву і прыпыняліся. А мы шпарылі быццам нейкія міністры.

### Знаёмства з горадам

Аўтобусы спыніліся на абшырнай плошчы перад райвыканкамам, над якой дамінуе велічэзны помнік Леніну.



*Так пачаўся несанкцыянiраваны мiтынг.*

Вуліца, што пралягла паўз плошчу — Камуністычная. Яна, у сваю чаргу, перакрыжоўваецца з Савецкай.

Але не ва ўсіх пружанскіх вуліц такія чытэльныя, адназначныя назвы. Ці ведаюць, напрыклад, паважаныя чытачы, чым праславіўся Ірыней Каляда? Адзін прахожы асвядоміў нас, што — а як жа — рэвалюцыйнай дзейнасцю, выказваючы пры нагодзе свае меркаванні пра сённяшніх „дерьмократов", якія не толькі ганьбяць заслугі такіх слаўных дзеячаў, як Каляда, але і наогул з'яўляюцца прычынай ўсякага зла. „Можаце запісваць мяне, я праўды не баюся", — заяўляў, махаючы рукамі, прахожы.

На скрыжаванні Камуністычнай і Савецкай вуліц другая плошча. Захаваліся на ёй два помнікі архітэктуры




*Гандлёвыя рады і сабор Аляксандра Неўскага.*

XIX стагоддзя: сабор Аляксандра Неўскага і гандлёвыя рады, называныя старэйшымі жыхарамі, якія яшчэ памятаюць іх сапраўднае прызначэнне, таксама белымі крамамі. Цяпер у будынку аптэка і гарадская бібліятэка. Прыватная ініцыятыва гандлюе з будак або проста на тратуарах.

У сквэрыку пасярэдзіне Савецкай плошчы, спецыяльна для гасцей з Польшчы, грае мясцовы духавы аркестр. Хаця нядзеля, адкрыты прадуктовыя і прамысловыя магазіны. Але гэта не з-за прыезджых, а проста звычайны працоўны дзень для гандлю. У крамах сям-там спатыкаем знаёмых з экскурсіі. На полках няма такога выбару тавараў як у Польшчы, але і не так пуста, як некалькі гадоў таму. Найбольш надзейны, танны і высакаякасны тавар — гэта беларуская гарэлка. Тут мы пазнаем прынцып, якім кіруюцца пакупнікі спіртнога — не гатунак важны, а месца прадукцыі. У Пружанах усе просяць гарэлку з брэсцкага вінакурнага завода.

### Арганізатары несанкцыянiраванага мітынгу

На лавачках ля зачыненай ужо пасля багаслужбы царквы сядзяць бабулькі. У царкву прыязджаюць яны з вёсак, некаторыя з якіх у дваццаці кіламетрах ад Пружан. Юрка выцягвае магнітафон і просіць расказаць пра жыццё, пра тое, як было тут раней, да вайны. Сёння, хоць і нялёгка, але ўсё ж лепш як было калісь пры Польшчы. У Пружаны могуць яны прыехаць на аўтобусе, а да вайны на ўсю вёску быў адзін „лісапед", у асадніка. За працай свету не бачылі, а сёння маладым у галаве толькі апрануцца ды машыну набыць.

Калі бабулькі расказвалі пра тое, што нямецкае консульства ў Брэсце маркамі выплачвала кампенсацыю за работы ў Нямеччыне ў час вайны, вакол нас сабраўся ладны-такі натоўп. Адна кабета абавязкова хацела расказаць свету пра сваё гора — адзінокае жыццё і 180 тысяч рублёў пенсіі. Калі заявіла яна, што пры немцах быў больш парадак, натоўп падзяліўся на два лагеры — адны пагаджаліся, іншыя абураліся. „Немцы, хай іх халера, вунь колькі людзей пабілі!" — крычала мажная цётка. „А бальшавікі то што, адно па галоўках гладзілі?" — рытарычна пытаў нейкі дзядзька.

Памятаючы пагрозы прэзідэнта Лукашэнкі для арганізатараў мітынгаў, просім людзей суцішыцца і разысціся. Калі не памагае, самі даем драла. Даганяе нас жанчына на ровары і прапануе нямецкую водку, якую купіла гасцям, але „яе палякі" чамусьці не прыехалі. Як сапраўдныя патрыёты беларускіх вырабаў, адмаўляемся, а тут жа зычлівыя прахожыя тлумачаць, што гэта вядомая на ўвесь горад гандлярка. Адмаўляемся і ад прапановы міліцыянта, які нас канваіраваў па дарозе, „з'ездзіць на прыроду". Што ён меў на ўвазе кажучы: „как хотите, мое дело было сделать вам предложение", застаецца для мяне і цяпер та-



*Hyde Park пад Леніным.*

ямніцай. Сябра, якому я пра гэта расказваў, пашкадаваў, што мы не пакарысталіся запрашэннем: „ніякіх тайнаў не ведаец, а магло б быць цікава".

Цэнтр дваццацітысячных Пружанаў можна хутка абысці туды і назад. Калі пачалі таптацца па сваіх слядах, рашылі мы лепш зайсці ў рэстаран. Але тут аказалася, што альбо траплялі на абедзенны перапынак, альбо санітарны час, альбо сустракалі зачыненыя па зусім невядомых прычынах дзверы. Блукаючы так, пры нагодзе зайшлі мы ў рамантаваны касцёл, дзе ксёндз на польска-беларуска-расейскай трасянцы падсумоўваў выезд дзяцей на адпачынак у Польшчу, хваліў польскую арганізацыю летніка і прасіў адпрацаваць за гэта пры рамонце святыні.

### Hyde Park пад Леніным

Усё-ткі знайшлі мы ў канцы адкрыты бар з чароўнай назвай „Легенды Палесся", дзе падмацаваліся мясцовымі настойкамі на зёлках. Удалося гэта таксама большасці нашых спадарожнікаў, бо перад ад'ездам, пад помнікам правадыру пайшлі патрыятычныя прамовы, заклікі да дружбы і пацалункі з новымі, толькі што пазнанымі сябрамі. Пад Леніным учыніўся сапраўдны Hyde Park, дзе кожны можа нешта сказаць, не дбаючы пра тое, ці хто яго слухае.

На мяжы былі пэўныя клопаты, каб змясціцца на вузкай сцежцы, пратаптанай па заараннай паласе. Але, на шчасце, усё добра скончылася. Ніхто не застаўся ў Беларусі, як пару гадоў таму адзін дзядзька (вярнуцца ўдалося яму толькі праз некалькі дзён).

За мяжою, пасля чарговага цудоўнага моўнага пераўтварэння, можна было падвесці вынікі нашага знаёмства з горадам-суседам Пружанамі. Для мяне, асабіста, быў і прыкры момант, калі спёрлі мой парасон, пакінуты на момант пры царкоўнай агароджы, калі рабіў здымкі. Але ж, усяляк у жыцці бывае.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

---

<u>З маёй званіцы</u>

# Канкурэнты

Мой пакойны татуль так калісьці казаў мне: „Лепшы малы гандэлек, чым вялікі шпадэлек. Займіся, сынок, нейкім гандлем, а бяды не будзеш бачыць". Таму, памятаючы бацькавы словы, цэлымі днямі цяпер па лесе бадзяюся ў пошуках грыбоў, каб іх потым варшаўякам завезці, значыцца, прадаць. Жонцы ад маіх паходаў у лес ужо мову заняло. Відаць, да бабкі ў Орлю ехаць прыйдзецца і чары адчыняць, каб мая каханая зноў са мною гаварыць пачала. А ўсё з-за грыбоў праклятых!

Ужо неаднойчы заракаўся я ў лес не хадзіць. Але калі падумаю аб сваіх унуках каханых і пустым кашалёчку, у якім грошы бываюць толькі некалькі дзён пасля палучкі, зноў у лес цягне быццам ваўка гэтага. І думаеце, што я разбагацеў? Ні шыша! Гэта ж не тое, што прадаць некалькі бутэлек піва чаромхаўскаму прадпрымальніку. Грыбы ў лесе то растуць, то зноў прападаюць, а апівохі ў нас не зводзяцца і заўсёды сваю піўнушку пільнуюць. Таму ў нас як грыбы пасля дажджу растуць усялякія супер- ці міні-маркеты з абавязковым півам.

На піве, відаць, прыбытак нядрэнны. Прадпрымальнікі цэны самі устанаўліваюць і ніхто ім ні ў чым не перашкаджае. Кантралёры цяпер іх не непакояць, як гэта пры камуне бывала, а з санэпідам адносіны ў іх панібрацкія.

Не верыце? Дык загляньце ў Чаромху. Зараз пры вакзале ёсць піўны бар, а за плотам прадуктовая крама. У піўным бары культура не абы-якая: можна паслухаць музыку, у камп'ютэрнай гульні выйграць сумку нейкую. А і на вольным паветры пад парасонам піва ў спакоту лепш смакуе. Гэта не тое, што ў суседа за плотам! Там, пры прадуктовай краме, аматару піва найчасцей на кукішках сядзець прыходзіцца і яшчэ трэба аглядацца, ці не надыходзіць нейкі старож правапарадку, які можа звярнуць увагу, што незаконна і некультурна піць піва ў публічным месцы. Але мясцовым апівохам культура непатрэбная. Ім важна, што тут бутэлька на дзесяць грошаў таннейшая. Ды і ўладальнік сядзібы, на якой знаходзіцца крама, міленькі чалавек. Нейкае сядзенне вынясе часам, ветліва загаворыць. Як не цаніць такога! І людзі ліпнуць да крамы з півам, бы мухі да мёду. Толькі бармен з-за плота скоса спаглядае на свайго канкурэнта, які ў яго кліентаў падбірае ды ў краме і на панадворку распіваць піва дазваляе.

Ды што ж зробіш, калі такі час настаў. Хто мае „плечы" і грошы, той жыць будзе прыпяваючы і пашанай карыстацца. А законаў няхай іншыя прытрымоўваюцца. Паглядзеўшы на ўладальніка бара, падумалася мне, што яму так шанцуе з кліентамі, як мне з грыбамі. Не стаў я ўжо больш зайздросціць яму.

**Уладзімір Сідарук**

# Пратэст праваслаўных палякаў

На пачатку студзеня 1957 года Цэнтральны Камітэт ПАРП, прэм'ер-міністр Юзэф Цыранкевіч, некаторыя міністры і рэдакцыі партыйных газет атрымалі ліст ад „палякаў праваслаўнага веравызнання паўднёва-ўсходняй Беласточчыны", у якім яны рашуча пратэставалі супраць існавання і дзейнасці „Białoruskiego Komitetu Społeczno-Kulturalnego". Ліст гэты быў быццам бы спантанным адказам „праваслаўных палякаў" на артыкул, змешчаны ў „Ніве" ад 18 лістапада 1956 г. пад загалоўкам „Што з намі будзе". У 1956 г. „любоў сацыялістычных і братніх народаў" на Беласточчыне заліла хваля нацыяналізму. Прывіды пасляваеннага кашмару зноў з'явіліся перад вачамі беларусаў. Невядома ў які спосаб у тым часе паміж пальцамі цэнзараў праслізнуўся славуты артыкул у „Ніве", які выклікаў вялікі рух у кабінетах улады, дыскусію ў польскім асяроддзі і даў занятак дзесяткам афіцэраў бяспекі. *Доўгачаканая свабода слова,* — пісалася ў „Ніве, — *падпарадкавала сабе сэрцы людзей. Але ў гэтым энтузіязме пачуліся і варожыя галасы групы польскіх шавіністаў. Нацыяналістычныя клічы і беспадстаўнае дакучанне беларусам узмоцніліся ў апошнім часе. Здзіўляе толькі, якім правам гэтыя варожыя элементы асмельваюцца праследаваць беларусаў! Хто ім даў такое права? Беласточчына, асабліва яе ўсходнія паветы — гэта зямля так сказаць гранічная. Беларусы засялілі яе, як толькі далёка сягае памяць гісторыі. Іх сюды ніхто не прывёз, яны знікуль не прыйшлі, жывуць тут і працуюць з дзеда-прадзеда. На працягу гісторыі ўжо не раз выяўляліся імкненні польскіх нацыяналістаў, мэтай якіх было даказаць, што беларусаў няма...*

Ліст „праваслаўных палякаў", накіраваны між іншым рэдактару „Gazety Białostockiej", быў безумоўна правакацыяй. Невядома толькі, хто быў яго аўтарам. Асноўныя тэзісы, якія там прыводзяцца, а асабліва тое, што праваслаўныя Беласточчыны — гэта перахрышчаныя пры царскай уладзе палякі і католікі, часта прыводзіліся каталіцкімі святарамі (глядзі: інтэрв'ю з беластоцкімі епіскапамі — „Gość Niedzielny", н-р 35 ад 29.08.1993 г.). Ніякі праваслаўны, нават паляк, не напісаў бы ліста такога зместу. Беларускае таварыства называецца там камітэтам, наводзячы такім чынам асацыяцыі з беларускай арганізацыяй, якая дзейнічала ў Беластоку ў час нямецкай акупацыі. Аўтары стараліся выклікаць уражанне, што пісалі яго простыя людзі, заклапочаныя лёсам Беласточчыны, якія нават дрэнна валодаюць польскай мовай. Такія лісты чыталіся пасля сярод партыйнай эліты, ствараючы атмасферу, якая прымушала „нашых хлопцаў" выяўляць сваё абурэнне з прычыны дзейнасці „беларускіх нацыяналістаў" і даказваць сваю адданасць у змаганні за польскасць Беласточчыны.

**Яўген Міранові́ч**

*Dnia 4 stycznia 1957 r.*

*List otwarty**

*my prawosławni zamieszkujący powiat bielski, hajnowski, wschodnią część pow. sokólskiego, południowo-wschodnią część pow. siemiatyckiego i wschodnią część pow. białostockiego zwracamy się do Was z niepokojem, gdyż z chwilą powstania Białoruskiego Komitetu Społeczno-Kulturalnego w krzywdzący sposób robią nas prawosławnych Białorusinami nie pytając się wogóle czym my się czujemy.*

*W szczęśliwym położeniu są na w/w terenach Polacy wyznania katolickiego, gdyż symbolem ich polskości są kościoły we wsiach i miasteczkach. (...)*

*Dziwi nas bardzo, że ludzie niektórzy na wysokich stanowiskach (...) operują fałszywymi cyframi, okłamując tym samym władze centralne, a wśród ludności polskiej wprowadzają niepokój i atmosferę napiętą, krzywdząc przede wszystkim nas Polaków wyznania prawosławnego.*

*Fałszerzami są przede wszystkim:*

*1)Białoruski Komitet Społeczno-Kulturalny na czele z sekretarzem tegoż Komitetu Aleksym Kozłem 2)Kierownik Wojew. Zarządu Spraw Wewnętrznych Ob. Roszko 3)Kierownik Wydziału Społeczno-Administrac. Białorusin Marczuk, oraz referent d/s narodowościowych w tymże Wydziale również Białorusin.*

*(...) Na podstawie dokumentów znajdujących się w Woj. Archiwum w Warszawie wynika, że ziemie białostockie od 1413 r. to jest od unii w Horodle z Litwą należały do Polski aż do 3-go rozbioru 1795 r. (...)*

*Po ostatnim rozbiorze z chwilą utworzenia w 1815 r. Królewstwa Polskiego połączonego unią personalną z Rosją, na części ziemi białostockiej nie wchodzącej w skład Królewstwa Polskiego rozpoczął się terror i przymusowa rusyfikacja polegająca na przymusowym przejściu Polaków katolików na prawosławie. Stąd też na tych terenach obok starych kościołów widzimy cerkwie wybudowane właśnie w okresie prześladowań.*

*Czy Polacy w niewoli mieli siedzieć cicho? Oczywiście, że nie.* (Тут наступае шырокае апісанне змагання палякаў праваслаўных і католікаў за польскасць Беласточчыны.)

*W wyniku walk powstańczych na terenach południowej białostocczyzny nastąpiły masowe deportacje na sybir. Polacy natomiast chroniąc się przed zesłaniem całymi wsiami przechodzili na prawosławie, których obecnie bez ich zgody i wiedzy robi się Białorusinami. (...)*

*Przez 11 lat Polski Ludowej był na tych terenach zupełny spokój. Czyż mogli kłócić się ze sobą ludzie, których dzieliła tylko religia.*

*Stawiamy pytanie co się stało po 12 latach, że jest inaczej? Kto jest wichrzycielem spokoju i szantażu? Jest nim Białoruski Komitet Społeczno-Kulturalny na czele z sekretarzem Kozłem, który jest powołany do szerzenia kultury białoruskiej, a nie do siania zamętu i robienia z prawosławnych Białorusinów.*

*Do fałszowania cyfr odnośnie ilości Białorusinów Komitet ma ułatwioną drogę za pomocą Białorusina Marczuka Kierownika Wydziału Społeczno-Administracyjnego Prez. WRN, który przy pomocy referenta d/s narodowościowych okłamuje władze centralne.*

*Na szczęście władze centralne wiedzą, że 6000 prawosławnych w mieście Białymstoku pochodzi stąd, że ich pradziadowie w okresie silnej rusyfikacji podczas niewoli chcąc utrzymać się na różnych pracach przeszli na prawosławie, co zresztą było tak i w Warszawie o czym świadczy cerkiew na Pradze.*

*Na szczęście władze centralne wiedzą, że chór Białoruski zorganizowany przez Komitet Białoruski w Białymstoku składa się z samych Polaków i ledwie został zorganizowany przez częste ogłoszenia w Gazecie Białostockiej i obietnicami wyjazdu za granicę. To jest żywy przykład robienia Polaków — Białorusinami.*

*Zwracamy się z pytaniem, (...) czy władze państwowe mogą dopuścić do takich absurdów, że pod hasłem „Czto z nami budiet" Komitet Białoruski dopuszcza się gwałtów w setkach wsiach wyznania prawosławnego i za pomocą szantażu robi się tam szkoły Białoruskie, a gdzie ludzie nie chcą straszy się je Sowietami.*

*Komitet Białoruski dzięki posiadanej dużej ilości pieniędzy gromadzi przy sobie ludzi usuniętych ze stanowisk za dzierżymordstwo i Białorusinów zwalnianych z Urzędu Bezpieczeństwa. (...) Właśnie tacy sieją zamęt w terenie zwalając winę na Polaków.*

*A czy Polacy sieją strach wśród Białorusinów, tego nawet żaden chłop białoruski nie powie. (...)*

*My na zakończenie stwierdzamy, że mieliśmy magnatów, którzy w Targowicy w 1792 r. sprzedali Polskę, do nich należał również Ksawery Branicki z Białegostoku.*

*Mamy również Targowicę i w 1957 r. w Białymstoku w postaci Białoruskiego Komitetu, który dzięki Polsce mają swobodną działalność a jednocześnie w zdradziecki sposób przygotowują oderwanie terenów na południowy wschód od miasta Białegostoku, ziem rdzennie polskich zroszonych krwią tylomy powstaniami o niepodległość.*

***Polacy wyznania prawosławnego południowo wschodniej ziemi Białostockiej.***

*Друкуецца на мове арыгінала.

# Без кампрамісу

*(працяг са стар. 1)*

рэспубліке камуністамі і нацыянал-радыкаламі, сказаўшы наступнае: „Уявіце сабе такую карціну: сёння ў Вярхоўным Савеце канстытуцыйную большасць складаюць камуністы. Ці ж не відаць, што яны тут жа стануць кроіць канстытуцыю пад сваю партыйную праграму. Так будзе! На чарговых выбарах, напрыклад, да ўлады прыйдуць, ведаеце хто, нацыянал-радыкалы, якія засадзяць палову народа ў канцлагеры на аснове прынятай імі жа канстытуцыі. Вось і атрымаецца, што мы ў месца канстытуцыі будзем мець трышкаў кафтан, які кожны будзе кроіць пад свой густ і рост". Далей Аляксандр Лукашэнка заклікаў прыняць прапанаваныя ім змяненні ў канстытуцыю ўсенародна, на рэферэндуме, які ён намерваецца правесці ў святочны дзень 7 лістапада. З моманту рэферэндуму гэты дзень мае стаць не толькі днём кастрычніцкай рэвалюцыі, але і святам канстытуцыі.

Лукашэнкаўскі праект асноўнага закона прадугледжвае пашырэнне правамоцтваў прэзідэнта на сем гадоў і дае яму правa распускаць парламент, які складалі б дзве палаты, і якога дэпутаты ў частцы назначаліся б прэзідэнтам. Для абмеркавання новай рэдакцыі канстытуцыі 14 верасня будзе скліканы ў Менску беларускі нацыянальны кангрэс, у якім прымуць удзел прадстаўнікі працоўных калектываў, рэгіёнаў, усіх сацыяльных груп і слаёў — усяго каля 6 тысяч чалавек. На рэферэндум будуць вынесены яшчэ тры пытанні: аб уласнасці на зямлю, адмене кары смерці і перанясенні даты Дня Незалежнасці на 3 ліпеня — на дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў.

Магчыма, што цяперашняе супрацьстаянне прэзідэнта і парламента можа давесці да паважнага крызісу. У пачатку верасня адкрываецца новая сесія Вярхоўнага Савета і тады, мабыць, дэпутаты вырашаць, ці падпарадкавацца ім волі прэзідэнта, ці абараняцца перад ягонымі аўтарытарнымі памкненнямі. Магчыма, што апазіцыя падыме спробу вывесці незадаволены гаспадарчай сітуацыяй народ на вуліцу, нягледзячы на забарону дэманстрацый. Аднак з упэўненасцю можна сказаць, што выяўлены падчас выступлення ў Гродне план палітычных дзеянняў прэзідэнта на восень красамоўна сведчыць аб тым, што Аляксандр Лукашэнка не намерваецца шукаць кампрамісу з палітычнымі фракцыямі ў парламенце.

**Віталь Луба**

## Адгалоскі

# Хто да каго прычапіўся?

Гартаючы „Ніву" ад 11 жніўня г.г, я спыніўся на публікацыі Міхася Куптэля „Фэсты і паслы". Усё гэта праўда, што піша аўтар. Я скрупулёзна пераглядаю кожны нумар нашага штотыднёвіка і ніяк не магу здагадацца, з якой мэтай прысутнічаюць на беларускіх фэстах паслы Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі.

Напрыклад, у Чаромсе падчас фэсту мы з Мірaславам Навіцкім асабіста даручылі паслу Плеве справу мясцовай пажарнай каманды, якая па розных бюракратычных прычынах не можа дачакацца канчатковага вырашэння (аб гэтым дэталёва пісаў я ў артыкуле „Пажарнікі на паперы" ў „Ніве" ад 7 ліпеня г.г.). Прыгадаю толькі, што замест ліквідаванай з канцом 1994 г. чыгуначнай прафесійнальнай пажарнай каманады, згодна з распараджэннем старшыні Рады Міністраў ад 14 кастрычніка 1993 г., у Чаромсе павінна ўжо другі год дзейнічаць спецыялізаваная *Jednostka Ratowniczo-Gaśnicza Straży Pożarnej.*

Калі я яшчэ раней паказваў апублікаваны матэрыял пра пажарнікаў войту Міхасю Врублеўскаму, той мне сказаў: „Пачакайма да 14 ліпеня, да фэсту. Зацікавім справай пасла Плеву. Мо ён нешта дапаможа".

Але да гэтай пары справа пажарнікаў не скранулася з месца. Відаць, ляжыць яна ў нейкага чыноўніка, глыбока схаваная пад сукном. Аж хочацца папытаць у арганізатараў фэстаў, ці паслы прыязджаюць толькі дзеля рэкламы сваёй персоны. На фэсце ў Чаромсе яны да публікі не прамаўлялі, дaручаную выбаршчыкамі справу не вырашылі. Тады ж навошта яны прыехалі?

Міхась Куптэль піша, што паслы прычапіліся да БГКТ, бы мухі да мёду. А мне здаецца, што само Таварыства жадае гэтага і бачыць нейкую карысць у супольным сяброўстве. На маю думку, такая рэклама не прынясе станоўчых вынікаў у чарговых парламенцкіх выбарах. Я напэўна не буду галасаваць на парламентарыяў — удзельнікаў фэсту, якім не пад сілу справіцца з пастулатамі выбаршчыкаў.

**Уладзімір Сідарук**

# БЕЛАВЕЖА

**СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 440**

**Рэдактар: Сакрат Яновіч**


Пяцьдзесят пяць гадоў таму назад нарадзіўся Уладзімір Гайдук, вядомы паэт, аўтар незабыўных лірычных вершаў. Публікуем яго *Адкрыты ліст*, твор, які нядаўна атрымалі мы з гэтае знакамітай нагоды.

*Уладзімір Гайдук*

## Адкрыты ліст

*Вось прыйшло ад вас запрашэнне*
*І жаль мяне ўзяў...*
*Штодзённа, Сізіф я, цягаю каменне*
*На свой апраметны „парнас"*

*Ўсявышні напэўна з касмічнага неба*
*Пра нас тут ведае ўсё,*
*Дзе жменька гаротных братоў-самаедаў*
*Сабе чыніць здзек і праклён.*

*Як быццам за косткі з сталоў яснепанскіх*
*Варта гібець,*
*Як быццам лямант і торбы жабрацкія*
*Лічым за гонар, не здзек.*

*Прыдуркамі, блазнамі быць заўжды хочам,*
*Бо гэтак ёсць нам ляпей.*
*У лыкавых лапцях і доўгай сарочцы*
*Развесяляць „ганаровых" гасцей.*

*Да поту й знямогі, у жартах нягеглых*
*За бравы на біс,*
*Скакаць і трасціся, як звар'яцелыя...*
*— Вось, моў, нам выпаў лёс які!*

*А праўда пра нашу няволю й кайданы*
*У ціхай журбе...*
*Хто ў сэрцы атруты ўліў нам паганай,*
*Да сёння ўчыняючы здзек?*

*Забылі пра гэта?! Вырадкі грэшныя!*
*Дык хіба ж не ўсе!*
*Малая Айчына, бы птушка ў клетцы,*
*Песню пра вольную волю пяе.*

*Навокал у вёсках пусцеюць сялібы,*
*Народ памірае ў вачах.*
*Палі зарастаюць горкім палынам,*
*Наводзячы сорам, здзічэласць і жах.*

*Сябры маладыя, вы ў рукі бярыце*
*Паходні, крыжы*
*І з клеткі-няволі птушку пусціце,*
*Няхай аж у неба ляціць.*

*Сірочую песню Ўсявышні пачуе —*
*Магутная сіла ў Яго!*
*І станем, як вольныя ўсе людзі свету,*
*Цаніць-берагчы спадкаемства сваё,*

*У працы, павазе да роднай старонкі,*
*Чыніўшы дабро!..*
*Дык смела выходзьце ўзараць жа аблогі*
*Прыгожых і мудрых паэзіі слоў!*

Алесь Чобат

## Джаз на старых гродзенскіх бруках

Грае
вулічны джаз
насупраць забягалаўкі „Верасок".
Саксафон звініць — як льецца ў збан
бярозавы сок.
Грае вулічны джаз.
Добра і сумна грае.
Але нават у Гродна грошай ніхто не мае.
Толькі марнуем час,
толькі марнуем час...
Гродзенскі сумны джаз.
І вецер па бруку мяце пясок...

Гродзенскі сумны джаз
доля ў мяне закапала.
Сумны вулічны джаз
ад Атлантыкі да Урала
гэтаксама гучыць —
бо Еўропа мы альбо не?!
Гродзенскі вулічны джаз
праліваецца праз мяне...
На руінах рамонтаў,
на высечанай алеі
не ад савецкіх мордаў
здыхаю і млею —
але дыхаю вулічным джазам,
граю вуснамі і языком...

Маю яшчэ трохі часу.
Хоць і жыву басяком.

Міхась Шаховіч

* * *

Прабач ты мне
Божа
Што так
Употай
Упарта
Наўздагад
Як конь у навачніцах
Уцякаю ад дому
Шукаючы дому
Не слухаў нікога
Не верыў нікому
Світанак надзейна
Збірае зарніцы
А я ўцякаю
Туды
Дзе начніцы
Дзе мары
Пагаслі
Русалкі хіхічуць
Шукаю спакою
У бунтарыстай ночы
Дзе рэха
Маўчыць
І дзе ценю
Нябачна
Прабач ты мне Божа
Прабач
Калі ласка
Прабач ты мне
Божа
Што лета мінае
Лета праходзіць
Апошняе лета
У нябыт аджывае
Прабач ты мне
Божа
Што восень так хутка
Прыйшла патаёмна
Нябачна, нячутна
Зямлю распранула
На здзекі
Марозу
Прабач
Ты мне Божа
Што
Усё як па грудзе
Што сонца
Не ўсходзіць
Што
Вясны ўжо
Не будзе.

Міхась Андрасюк

## Вёска

Трымцяць агнямі
свечы жоўтых клёнаў,
дзядзькі на лавах
п'юць царкоўнае віно,
бабулі час прадуць і,
у далонях збіваецца кудзелле мазалёў.

Над хаткамі
прыселі на кукішках
дымкі, у якіх дагарае
чорны хлеб.
Як не глядзі: і да зямлі ўжо
ім не блізка,
і ў неба вольнае яшчэ далей.

Па-над лугамі
медзяныя хмары
рысуюць першы восені эскіз.
Лісцё і птушкі звязваюцца ў пары,
каму ў вырай адляцець,
а каму ўніз.

І за фіранкамі
у акенцах сонных,
агнямі лямпачкі
хістаецца жыццё.
Згараюць ціха свечы жоўтых клёнаў.
Яшчэ за памяць ці,
ужо за забыццё.

Зьніч

## Мядовая пагоня

...твая вера — „вяртаньне
ў Эўропу"...
твая мара — мядовы кілім...
быццам вершніца, скачаш галопам
на сівым ч а р а - д з е і
маім...

...я рыфмару ў самоце між хмараў...
зоры й зьнічкі ўсьміхаюцца мне...
а дзявочыя лініі чараў
даганяюць... у золкавым сьне...

...не сыходзяць ні ў дні...
ні ў сутоньні...
ноччу — гронкамі рыфмаў
зіхцяць...
мулкай, жарснай
мядовай пагоняй
мушу лініі лёсу
люляць...

*(З цыкла „Мядовае scherzo")*

Сакрат Яновіч

## Мой малы генезіс

У дваццатым стагоддзі аднойчы жыць давялося. У самых пачатках славянскага ўсходу, у Крынках. У азіяцкія аднак тут зімы, хоць лета час-часом залятае сюды ад Элады. Мікраполісны гімназіён у нас тады — памятаецца — размяшчаўся ў драўляным асабняку колішняга медыка іудзейскага (забілі яго былі рыжыя германе). У юнецтва маё ўрокі ў ім давалі варвары, падвучаныя з мясцовых багатыроў. Яны, праўда, чулі нават пра Сакрата ды ягонага вучня Платона, але ўсё ж шчыра не спадзяваліся, што як хрысціяне пакланяюца жыду Ісусу...

У той — пасля вялікае вайны акурат — росквіт прымітыўнае цывілізацыі ў тутэйшым старонні надарылася нямалая ўдача халопам і плебеям. Ім, зрэшты, заўсёды даволі шчасця з хлеба, віна, пропаведзі; у такім клімаце яшчэ і з жытла. Горадзен іх — Беласток, у нечым кпталтам Афінаў з графаманскім падабенствам Акропалю, у выглядзе чырвонасцяжнае будыніны на валасную меру. Прышпываныя дочкі бульбаносыя Карынфа аблюбавалі венерную Кракаўскую вуліцу (па-кашэчаму ўтульную).

Жывецца, вось, бы запацеламу Сізіфу пад гарою.

Вельмі практычна прытым не бярэм у галаву выпадковасць свайго ў кожнага з'яўлення на свет. І таго, таксама, што нараджаемся, каб памерці. Намагаемся затое на сэнс уласнага існавання — хто паўжыцця на куплю аўтамашыны аддае, іншы на бабы растрачваецца; бывае, на гарэлку ўсянютка прасадзіць або ў саладосць скандалаў кінецца; камусьці горб вырасце ад служ-бы вернае... Тлумачыцца тое і тое, і дзесятае, папулярным махлярствам, дбайнасцю менавіта пра ясную долю дзецям родным. А яны ж, наследкі тыя, толькі ў пляменаў першабытных паўтараюць бацькаў лёс, аб чым ужо ведалі ў белакаменнцу старажытнасць.

Можна сказаць: і славяне прыдумалі душу... Няпраўда, аднак жа, што і пекла з раем. Няма пэўнасці, дарэчы, ці гэта вынаходніцтва якраз эмацыянальных элінаў у супражжы з рацыянальных рымлянамі. Разам з тым досыць камічна гаварыць пра бяссмерце выпадковага. Нашто чалавеку вечнасць? Каб швэндацца неўміручым турыстам пасля зямное натруджанасці?

Бунтарны Ізраіль, пляжаны кесарамі, паспеў ашчасліўць нас Богам Адзіным. Сын Яго — будзе дзве тысячы гадоў ад банальнага ў тую пару распяцця — надарэмна вучыць дурняў розуму, варагоў прыяцельства, багатых спагаднасці. Але, прынамсі, Богаайца баімся па паганскай традыцыі, замест хрысціянскае любові ўсімі ўсіх. Таму перспектыва раю звузілася ва утопію, а вароты ў пекла нядбайна расчыненыя.

З дзіцячай упартасцю вяртаецца пытанне: а нашто ўсё гэта? Жыццё на зямлі дзеля неба? Зямное ў імя незямнога? Такіх сумненняў не наглядаецца ў галодных і халодных. У гэтым, відаць, і адказ. Адназначны, бы арганізм. І кпіна лірыкі смерці, усё роўна што папрок паэтам ды фанатыкам.

Аднаму Богу вядомая сутнасць свету, з чым я гатоў пагадзіцца. Бо ставіць пад пытанне Сусвет гэтак жа бяссэнсава, як і свае нарадзіны.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Верасень

Верасень
Квітнее,
Верасам
Сінее.
Ластаўкі
У нябеснай шыры
Чарадой
Ляцяць у вырай.
Сад багаты,
Агароды
Пахнуць кропам,
Пахнуць мёдам.
У гуртку
Дзяцей вясёлых
Ранкам крочыць Янка
ў школу.

**Авяр'ян Дзеружынскі**

## Васіль Цяпінскі

Васіль Цяпінскі побач Сымона Буднага быў найбольш вядомым дзеячам беларускай рэфармацыі. Нарадзіўся ён у 1530 годзе ў вёсцы Цяпіны. Паходзіў з беларускай шляхецкай сям'і. У шасцідзесятых гадах XVI стагоддзя быў салдатам і прымаў удзел у тагачасных беларуска-маскоўскіх войнах. Сустрэча з беларускімі мысліцелямі — Сымонам Будным і Канстанцінам Астрожскім — прывяла яго да працы на культурнай і асветнай ніве. Цяпінскі ў сямідзесятых гадах апынуўся ў цэнтры палемічнай барацьбы, якая вялася тады ў Беларусі паміж рознымі палітычнымі і рэлігійнымі плынямі. Погляды і адукацыя Цяпінскага наблізілі яго да арыянства, найбольш радыкальнай групы рэфарматараў тагачаснага рэлігійнага і грамадскага жыцця. Арыяне сваімі поглядамі апярэдзілі эпоху, у якой жылі, на тры стагоддзі. Цяпінскі быў першым з беларускіх мысліцеляў, які выказаўся за неабходнасць развіцця навукі, літаратуры і культуры на роднай мове. За ўласныя сродкі заснаваў друкарню і выдаваў „Святое Пісанне" і другія рэлігійныя кніжкі на старабеларускай мове. З думкай пра рэлігійную адукацыю наймалодшых напісаў „Катэхізіс або Сумы навукі для дзетак". Цяпінскі адчуваў, што набліжаецца час, калі адукацыя і культура стануць вырашаць пра будучыню народаў, таму змагаўся, каб развівалася яна на роднай, для ўсіх зразумелай, мове.

## „Зорка"

Я люблю, я чытаю,
Я заўсёды „Зорку" маю.
Я скачу, я гуляю,
калі „Зорку" аглядаю.

Я танцую, я спяваю
калі гэты верш складаю.
Я сумую, я чакаю,
калі „Зорку" зноў дастану!

**Агата Гуральчук**
**кл. VI „е" ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

## У пачатку школьнага года

Зноў пачаўся новы навучальны год. Многія дзеткі засумавалі па сваёй школе, асабліва па сябрах і сяброўках.

„Зорка" таксама не магла дачакацца канца канікул. Праўда, пісалі да нас самыя верныя сябры, напрыклад Марцін Мялешка, Алена Драўноўская, Агата Гуральчук, Аня Садоўская, Цалінка Глагоўская і Кася Леанюк, дзеці з Беластока і амаль усёй Польшчы. Разам з пачаткам школьнага года і „Зорка" пачынае працягваць цеснае супрацоўніцтва са школамі і сваімі сябрамі. Хачу паведаміць, што ў гэтым годзе мы наладзім шмат „Творчых сустрэч", будзем арганізаваць многа цікавых конкурсаў, будуць крыжаванкі і многа-многа іншых атракцыёнаў. Варта будзе, думаю, нам, дарагія сябры, зноў падпісацца на „Зорку". І думаю, што такога рашэння не пашкадуеце.

Напамінаю таксама, што ў нашай рэдакцыі чакаюць многія летнія ўзнагароды для лаўрэатаў конкурсаў і крыжаванак. А калі нехта з вас, або вашых бацькоў апынецца ў Беластоку, то запрашаю ў нашу рэдакцыю, якая цяпер знаходзіцца на вуліцы Заменгафа 27. У нашай рэдакцыі вы будзеце заўсёды дарагімі гасцямі.

Да хуткай сустрэчы сябры

**„Зорка"**



*Вітай школа! На здымку нашы сябры і настаўніца Аліна Ваўранюк, аўтарка шматлікіх допісаў і здымкаў у „Зорку".* Фота Ганны Кандрацюк

## Крыжаванка № 35

Запоўніце клеткі паводле значэнняў. Калі вы правільна разгадаеце ўсе словы, атрымаецца лозунг. Дарэчы, усе словы крыжаванкі ўзятыя з сённяшняй „Зоркі". Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды (сегрэгатары). **Зорка**




## Вясёлы куточак

Настаўнік тлумачыць дзецям на ўроку біялогіі:
— Ніколі не трэба цалаваць звяроў, бо такім шляхам пранікаюць мікробы. Ці хто з вас можа прывесці прыклад гэтаму?
— Мая цётка часта цалавала свайго сабачку, — адказвае адзін вучань.
— Ну і што сталася?
— Той сабачка здох.

* * *

Сямігадовы Коля пытае суседку:
— Ці вам не перашкаджае, калі так цэлымі гадзінамі граю на фартэпіяна?
— Вядома, перашкаджае.
— Вельмі вас прашу: скажыце гэта маёй маме.

* * *

— Татка, ці ведаеш, што твой гадзіннік воданепранікальны?
— Так, ведаю. А ты адкуль пра гэта знаеш?
— Бо як учора наліў я ў яго вады, дык да сёння не выцякла адтуль ні адна кропля.

* * *

Дырэктар школы прымае тэлефон:
— Пан дырэктар, Валодзя Кавальскі не можа сёння прысутнічаць на занятках...
— А з кім я гавару?
— З маім таткам.

* * *

— Забараняю табе гаварыць брыдкія словы! — загадвае бацька сыну.
— Гэтымі словамі карыстаўся Джэймс Джойс...
— Больш з ім не гуляй!

* * *

Маці дакарае сына:
— Усе дзеці памагаюць мамам дома, толькі ты цэлымі днямі ляжыш у ложку...
— Ты ж сама гаварыла, што я павінен быць іншы ад усіх.

* * *

Вася не з'явіўся ў школу. На другі дзень тлумачыць настаўніцы:
— Мама памыла мае нагавіцы.
Мінула некалькі дзён і Вася зноў не прыйшоў у школу.
— Што, зноў прагульваў урокі? — пытае злосна настаўніца.
— Ды не. Калі я праходзіў каля вашага дома, пабачыў, што сушыцца ваш жакет, і падумаў сабе, што на гэты раз вас не будзе ў школе.

Даслаў **Андрэй Гаўрылюк**

## Загадкі

Я цвіту на полі летам,
Быццам снег, бялюткім цветам.
„Г" адкінеш толькі ты —
Паплывуць па мне плыты.

* * *

Жыву на купінах штогод
І, як пчала, збіраю мёд.
Адкінеш „Ч" — і ты мяне
Ў рацэ сустрэнеш аж на дне.

* * *

З жалеза скуты, невялік,
Твайго двара я вартаўнік.
Адкінеш „З" — ідзі на двор:
Я стану Янкі Маўра твор.

**Эля Яканюк**
**Гайнаўка**



Талон „Зоркі" № 35
01.09.1996

# Дзеці-паломнікі



*Аня Садоўская, Юстына Курыяновіч, Кася Русіновіч і Магда Скепка прыйшлі на Грабарку з Нарвы.*

14 жніўня г.г. рушыла з Беластока паломніцтва на Святую Гару Грабарку. На працягу чатырох дзён паломнікі прайшлі 120 кіламетраў. Нягледзячы на доўгую і цяжкую дарогу, у паломніцтве ўдзельнічалі многія-многія дзеці; з Дубровы-Беластоцкай, Супраслі, Гарадка, Беластока, Нарвы. Сярод іх былі і сябры нашай старонкі — юныя паэткі Аня Садоўская і Кася Русіновіч з Нарвы, сябры „Творчых сустрэч" з Гарадка: Эля Карпюк, Малгажата Госцік, Наталька Парэмбская, вучні Пачатковай школы н-р 9 у Беластоку (якія вывучаюць беларускую мову). Гося Госцік з Гарадка — дзяўчынка, якая на ўсіх „Сустрэчах Зоркі" малюе іконку Св. Гаўрыіла Заблудаўскага, ідзе з мамай. Але яна толькі зрэдку трымаецца мамы і старэйшых людзей з Гарадка. Госі трымаліся многія дзяўчаты і адзін хлапчук — Шыман Парэмбскі.

— Umiecie po białorusku mówić? — пытаецца дзяўчат беластоцкі юнак з крыкам.

— Po prostu? — утэўнівающа дзяўчаты.

— Я думаю, што беларуская мова не простая, — кажа беластоцкі юнак. — Чаму ж яе ведаюць ужо нямногія?

Найбольш дзяцей было з самога Беластока. Здаравяка Андрэйка, хаця і трохкласнік, ужо чаргговы раз удзельнічаў у паломніцтве. Ён таксама дапамагаў арганізатарам сачыць за парадкам.

Адась і Юрка з Беластока, вучні пачатковай школы, чарговы раз ідуць у паломніцтва. Разам з хлапчукамі — бацькі.

— Гэта зусім не важнае, што ногі баляць, — гаворыць Юрка, пяцікласнік.

Хлопец, хаця і збіўся з ног, за нішто не хацеў пад'ехаць на машыне.

— Калі дайду сам на Святую Гару Грабарку, і балець перастане, — гаворыць ён.

Усе дзеці дайшлі на Святую Гару Грабарку. І, хаця яны страшэнна стаміліся, гаварылі аднак, што за год зноў пойдуць у паломніцтва. А пра свае ўражанні ад паломніцтва паабяцалі напісаць нашы карэспандэнткі з Нарвы.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*

# Дзіцячы летнік

У днях 8—16 жніўня ў асяродку „Пушча" ў Супраслі адпачывала група з 16 дзяцей з Ягуштова, Бельска і Мінска. Іх пабыўку ў Супраслі ўспамог грашыма войт гміны Бельск-Падляшскі і бельскі аддзел страхавой кампаніі PZU. Бельскі малочны кааператыў прыслаў дзеткам вельмі смачныя сыр і смятану. Апекуном групы быў Дарафей Фёнік. Вельмі клапаціўся аб выгадзе дзяцей і кіраўнік асяродка Рыгор Кішкель, якому на канец праспявалі яны „Многая лета".

Першай знаёмай асобай, якую я спаткаў у пушчы, была Аліна Асташэвіч, удзельніца апошніх сустрэч „Зоркі". Хутка пазнаёміўся я і з іншымі.

Басі Карпюк падабалася тут усё, яе сястры Марце найбольш падабаліся хлопцы, але яна не назвала іх імёнаў. Юстыне Вышкоўскай найбольш спадабалася званіца манастыра ў Супраслі.

Акрамя манастыра дзеткі наведалі беластоцкі сабор Св. Мікалая, каб пакланіцца мошчам Св. Гаўрыіла. Сустрэлі яны таксама многа цікавых людзей, якія пабывалі якраз у Супраслі. Найбольш запамятаўся ім айцец Джон Матусяк з Чыкага, а яшчэ ўладыка Іерамія і айцец Гаўрыіл з Супраслі.

Удзельнікі нашай групы гулялі разам з праваслаўнымі дзеткамі з Варшавы. Пазнаёміліся таксама з дзеткамі з Оўруча на Украіне, якія пабывалі ў Супраслі па запрашэнню ўладыкі Савы.

Дзеткі маліліся супольна, спявалі пад акампанемент Дарафеевай гітары, раскладалі вогнішчы, хадзілі ў пушчу, купаліся ў рэчцы, збіралі ракавінкі і каталіся на байдарках. У гэтым апошнім адзначыўся Янак Хадакоўскі, які дзейсна дапамог Дарафею і ніжэйпадпісанаму вазіць малодшых.

Толькі Ілья Матрунчык з Мінска хадзіў і пытаўся: „Што будзем рабіць?" І сам сабе адказваў маркотна: „Будзем бяздзейнічаць", бо Дарафей забараніў бегаць самому.

Усё-такі Ілья сапраўды не бяздзейнічаў. Сведчыць аб гэтым песня, якую праспявалі мне яго сястра Маша і Аля Асташэвіч:

*Ілья Мурkоцік*
*яму не спіцца*
*быў бестурботны*
*пара жаніцца*
*Мяў, мяў, мяў, мяў...*
*Ілья Муркоцік*
*выбраў за жонку*
*Аню Навіцкую*
*з дванаццатага домку*
*Мяў, мяў, мяў, мяў...*

**Алег Латышонак**



*З дзецьмі — Мікалай Мельнікаў, іканапісец.*

Фота Дарафея Фёніка

# Залатая яблынька

Жылі дзед і баба і былі ў іх дочкі — дзедава дачка і бабіна дачка. Дзедаву дачку звалі Галя, а бабіну — Юля.

Баба сваю родную дачку песціла, даглядала, а дзедаву ў чорным целе трымала і ўсё шукала прычэпкі, каб са свету яе звесці.

Пайшоў аднойчы дзед на кірмаш, купіў бычка-трацячка. Прывёў дахаты і кажа дочкам:

— Будзеце пасвіць яго па чарзе — адна дзень і другая дзень.

Пагнала ў першы дзень бычка на пашу дзедава дачка. Злая мачыха дала ёй верацяно і мех кудзелі.

— Глядзі, — кажа, — каб за дзень усю кудзелю спрала, кросны выткала, палатно выбеліла і ўвечары дамоў прынесла. А калі не зробіш — не жыць табе.

Вывела Галя бычка з хлява, пагладзіла па шыі і пагнала на пашу. Гоніць, а сама горкімі слязьмі заліваецца.

Бычок пытаецца:

— Дзеўка-дзявіца, русая касіца, чаго плачаш?

— Як жа мне не плакаць, бычок? Загадала мне мачыха мех кудзелі спрасці, кросны выткаць, палатно выбеліць і ўвечары дамоў прынесці... Ці ж зраблю я гэта за дзень?

— Не плач, — адказвае бычок, — гані мяне на шаўковую травіцу, на свежую расіцу, там мы што-небудзь прыдумаем.

Прыгнала Галя бычка на шаўковую травіцу, на свежую расіцу. Наеўся бычок, напасвіўся, а потым кажа:

— Цяпер кладзі мне ў правае вуха кудзелю і верацяно. А сама хукні ў левае вуха і глядзі, што будзе.

Палажыла Галя бычку ў правае вуха кудзелю і верацяно, хукнула ў левае вуха і глядзіць. Аж там — кудзеля прадзецца, кросны ткуцца, палатно беліцца і ў сувой скочваецца.

Як усё было зроблена, выняла Галя гатовы сувой палатна і вясёлая пагнала бычка дахаты.

Злая мачыха сустрэла яе на двары:

— Ну што, спрала кудзелю?

— Спрала, — кажа Галя і падала ёй гатовы сувой палатна.

Мачыха аж за галаву хапілася: такую работу зрабіла яе падчарка! А тут і суседкі прыйшлі — дзівяцца, якое тонкае палатно выткала Галя. Усе хваляць яе, не нахваляцца.

Прыйшла чарга гнаць бычка бабінай дачцэ Юлі. Дала ёй маці верацяно і паўмеха кудзелі.

— Прадзі, — кажа, — дачушка, гэтую кудзелю і вытчы палатно яшчэ лепшае, чым выткала твая няродная сястра. Хачу, каб цябе людзі хвалілі, а не яе.

Узяла Юля тоўсты дубец і пагнала бычка. Гоніць ды ўсё хвошча яго дубком. Бычок давай кідацца тудысюды, а Юля бегае за ім, кляне на чым свет стаіць. Бегала, бегала і верацяно згубіла.

Прыгнала яна бычка сяк-так на голы выган, палажыла кудзелю, а сама спаць уклалася. Бычок пабэрсаў кудзелю нагамі і ў гразь утаптаў.

Прачнулася пад вечар Юля, глядзіць — кудзеля ў гразь утаптана... Схапіла яна дубец ды давай бычка біць. Бычок пабег дахаты, і яна за ім з крыкам.

Дома маці пытае ў яе:

— Ну як, дачушка, зрабіла работу?

— Ды не, — кажа дачка.

— Чаму?

— Бычок вінаваты. Праз яго я верацяно згубіла, а потым яшчэ ён і кудзелю маю ў гразь утаптаў...

Узлавалася мачыха на бычка. Пайшла да дзеда і кажа:

— Зарэж, дзед, бычка!

— Ці не здурнела ты, баба? — здзівіўся дзед. — Навошта нам яго рэзаць?

Тут баба як затупае нагамі, як накінецца на дзеда з кулакамі:

Калі не зарэжаш, дык я цябе выганю разам з тваёю дачкою!

Нічога не парадзіш — згадзіўся дзед зарэзаць бычка.

Пачула гэта Галя, пабегла ў хлеў да бычка, абняла яго за шыю і залілася слязьмі.

— Дзеўка-дзявіца, русая касіца, чаго ты плачаш? — пытаецца бычок.

***(заканчэнне будзе)***

# Юбілей паэтэсы

Мне, як аматару пісьменства Надзеі Артымовіч, давялося пачуць усякае пра яе вершы. Самыя крайнія выказванні больш-менш такія: творчасць бельскай паэтэсы з'яўляецца самым высокім па мастацтву здабыткам літаратурнай актыўнасці нашай меншасці; вершы ўражваюць празмернай замкнёнасцю паэтычнага коду. Няма ў мяне амбіцыі на *знаўства* гэтай творчасці, таму сваю юбілейную інфармацыю прысвячаю выключна самой паэтэсе.

Першая (сур'ёзная па якасці) вестка трапілася мне ў 1988 г. Беларускае студэнцкае асяроддзе ў Варшаве публікавала ў сваіх „Сустрэчах" тэкст Ю. Туронка „Нарыс беларускага школьніцтва на Беласточчыне". Цэнзар, які вычытваў „Сустрэчы", прычапіўся да адной фармулёўкі ў гэтым тэксце. Пасля размовы з ім (цэнзарам), я дамовіўся з аўтарам і мы сустрэліся, каб узгодніць папраўку, якая магла быць прычынай затрымкі выдавецкага працэсу. Размова наша паступова зыходзіла на агульнаграмадскія і гістарычныя пытанні. У яе ходзе вынікла неяк пытанне творчасці Н. Артымовіч. Я ўпершыню ўбачыў тады зборнік паэзіі „Роздумы", які спадар Туронак дастаў са сваіх, хацелася б сказаць, бяздонных архіваў. Рэч датычыла аднак не афіцыйнага выдання кнігі Беларускім грамадска-культурным таварыствам у 1981 годзе, але „Роздумаў", датаваных сакавіком 1977 г. (аддрукаваных у пяці экземплярах на машынцы). Гэта і ёсць кніжны дэб'ют Н. Артымовіч — наношу ў гэтым месцы карэктуру ў творчыя біяграмы паэтэсы, якія некрытычна перапісваюцца з аднаго (крытычнага) апрацавання ў іншае.

Характэрнай для Н. Артымовіч рысай з'яўляецца непрыхільнасць (брак схільнасці) для ўсякай аздобы. Выяўляецца яна не толькі ў сціплым (аскетычным) афармленні зборнікаў яе вершаў, але і ў агульнажыццёвай манеры паэтэсы. Можна таксама сказаць, што паэтэса неахвотна выказваецца пра сябе і сваю творчасць. Пра якуюсьці расшыфроўку згаданага на пачатку паэтычнага коду няварта і заводзіць дыскусію, бо калі так сабе гутарыш з паэтэсай, непрыкметна прабіваецца перакананасць, што вершы яе празрыстыя, ніякая расшыфроўка не патрабуецца.

— Асноўнай вартасцю, — кажа яна, — з'яўляецца тэкст і яго перачытванне. Аздоба, у якой форме яна не праявілася б, толькі адцягвае ад таго, што галоўнае.

Літаратура — вельмі вузкае адгалінаванне чалавечай актыўнасці. Прыгнятальнай большасці грамадства магло б яе ўвогуле не быць. Зараз жа, аднак, паэтэса дадае, што былі і заўсёды будуць людзі, якім яна неабходная.

У актуальны момант Н. Артымовіч абклалася літаратурай рэлігійна-філасофскага характару. А штуршком дзеля гэтага быў голас крытыкі, што ў яе вершах прапагандуюцца хрысціянскія вартасці. Яна вырашыла, што паволі сама здолее ў гэтым дэталёва разабрацца. Як дагэтуль, пацвярджэння не знайшла. Відаць, крытыку пасавала так напісаць — заключае паэтэса.


Фота А. Р. Тышко

Н. Артымовіч жыве збоч арганізацыйнага віру беларускай меншасці, але мае ў гэтай справе сваю думку. Ніякія масавыя формы — якой маштабнасці яны не дасягнулі б — пераломy не зробяць. Яна цёпла ўспамінае сваю адукацыю ў бельскім ліцэі, дзе навучанне фактычна праходзіла на беларускай мове. Гэтага аднак мала — самым істотным быў нацыянальны дух ды аховата і ўмеласць настаўнікаў прышчэпліваць яго сваім выхаванцам. І, мабыць, выкаваныя ў той час схільнасці характару вырашылі, што цяпер паэтэса перавагу ў сваім жыцці аддае сяброўскім кантактам з людзьмі, ад якіх, як кажа, *чуецца подых шаленства, а праз гэта і здаровай нармальнасці.*

Можа гэта і не надта выпадае, калі пішацца пра жанчыну, але інфармацыя ёсць інфармацыя — у гэтым годзе Надзея Артымовіч адсвяткавала сваю 50-ю гадавіну. Фатаграфія, якая тут публікуецца, паходзіць з паловы 70-х гадоў — яна сучасная для выхаду першага выпуску „Роздумаў". Яе публікацыя — вынік (амаль сілавой) настойлівасці аўтара, а не адступленне паэтэсы ад прынцыпу жыццёвай сціпласці.

**Аляксандр Максімюк**

Максім ТАНК

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1978

**23.III.** Званіў Семяняка. Памёр Рыгор Раманавіч Шырма. Апошнія дні ён, знаць, працаваў, што не вырвецца з рук смяротнай хваробы. Рад быў, што я яму пазваніў. Дачка Лена казала: ён часта западаў у забыццё, нат сваіх не пазнаваў. Збіраліся мы з Янкам гэтымі днямі наведаць яго, але так і не ўдалося. Спазніліся, занятыя вар'яцкай штодзённай мітуснёй.

Заўтра выстаўка П. Сергіевіча, прысвечаная яго 75-годдзю.

**25.III.** Быў на пахаванні Дзядзькі Рыгора. Як жывы ляжаў у труне. Толькі пахудзеў за час сваёй хваробы. Калі выносілі, па-вясенняму свяціла сонца. Мне прыйшлося сказаць на могільніку развітальнае слова. Добра, што захапіў валідол, бо нешта зноў пачало пабольваць сэрца. Добра было б заўтра сустрэцца ў нас з П. Сергіевічам, бо на могільніку ў натоўпе не ўдалося яго пабачыць.

Амаль ва ўсіх абласцях Беларусі сёлета шмат дзе загінулі азімыя. У некаторых калгасах больш 50, а то і 80% трэба перасеяць. У нейкай афрыканскай краіне ёсць спецыяльнае міністэрства па паражэннях. Відаць, і нам не пашкодзіла б мець такое. Чорт ведае, як не вязе ў сельскай гаспадарцы: то не засеем, то не паспеем сабраць з поля, то, сабраўшы, змарнуем на складах і элеватарах... І так з году ў год.

**14.IV.** Вярнуўся з пленума, які аднагалосна прагаласаваў аб прысуджэнні мне Ленінскай прэміі. Што сказаць, гэта самая высокая ўзнагарода ў маім творчым жыцці. І я рад, што атрымаў яе ні перад кім не адбіваючы паклоны і ні ў каго не выклянчваючы падтрымкі.

Калі не падвядзе здароўе, трэба будзе з'ездзіць з дэпутацкім адчотам да выбаршчыкаў у Смаргонь, Ашмяны, Воранава, Іўе, Астравец.

З захапленнем чытаю „Палескую хроніку" І. Мележа.

**19.IV.** Прачытаў у часопісе „Полымя" цікавую падборку вершаў Р. Барадуліна і нарыс А. Ліса пра Я. Горыда. Шкада, што ён не пазнаёміў мяне з гэтым нарысам раней. Ён піша, што нікога не ацалела з былых супрацоўнікаў „Маланкі". А гэта — не так. У рэдакцыі працавала сястра Любашы Зося Блято, якая зараз жыве ў Варшаве. І яшчэ я чуў: нехта з маланкаўцаў жыве ў Вільні.

**2.V.** У Польшчы шмат пішуць пра герояў Вэстэрплятэ. Хоць гэта быў малазначны эпізод у другой сусветнай вайне, дзе, як падаюць гісторыкі, загінула 15 чалавек, амаль столькі было ранена і каля двухсот трапіла ў палон. Слушна пісаў С. Фацішэўскі, што абаронцы Вэстэрплятэ былі на крок ад Фермапілаў, а дайшлі толькі да гісторыі.

А колькі больш значных і вырашальных эпізодаў канула ў забыццё! Розна бывае са славай.

Сёння былі ў нас на абедзе М. Кахановіч, Я. Брыль з жонкай, А. Адамовіч з жонкай, Я. Міско... Вось і мінула свята. Позна вечарам званіла з „Литературной газеты" Валя Памазнёва, прасіла прысласць новыя вершы.

**7.V.** Чуваць, цяжка хворы П. Броўка. Нейкія чуткі ходзяць, што збіраюцца мяне сватаць на пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук. Якому чорту магла прыйсці ў галаву такая думка? Відаць, у аддзеле Цэнтральнага Камітэта некаму вельмі хочацца змяніць склад сакратарыята нашага Саюза пісьменнікаў на больш пакладзістых і паслухмяных. Вось і ламаюць галаву, як гэтых дэмакратаў разагнаць.

**10.V.** Ляцеў у Маскву. А надвор'е такое паганае, што самалёт змушаны быў вярнуцца ў Мінск. Узяў білет на цягнік. Заўтра трэба выступаць на камісіі па ахове прыроды, а 16-га — на вечары Айні. Зноў пахаладала.

Прачытаў апошнюю аповесць В. Быкава, якая пакінула надзвычайна глыбокае ўражанне.

Цікава, што С. Бабpоўскі быў родзічам Ю. Конрада. А пра яго ў нас, не ведаю, ці чуў хто, хоць ён адзін з кіраўнікоў чырвоных у паўстанні 1862-1863 гг. і, напэўна, быў у блізкіх адносінах з К. Каліноўскім.

**17.V.** З сакратаром ЦК камсамола Беларусі К. М. Платонавым і І. Лучанком ездзілі ў Гомель і Мазыр. На Гомсельмашы чытаў сваю паэму пра М. Дворнікава, які калісьці быў першым камсоргам на гэтым заводзе. Тут пазнаёміўся і з яго сястрой, з яго сябрамі. Шкада, што не пабываў тут раней, калі яшчэ жыла маці „Герасіма".

Няма калі пісаць. Настаў нейкі зацяжны крызіс. Ездзіў на могільнік, дзе толькі што паставілі помнік М. Лынькову. Помнік досыць арыгінальны, які вылучаецца сярод іншых, стандартных. Побач з магілай Міхася Ціханавіча Лынькова — магілы І. Мележа, А. Куляшова, Р. Шырмы, Е. Лось, А. Бялевіча.

Яшчэ паспеў пабыць і на партсходзе, прысвечаным „Малой зямлі" і „Адраджэнню" — нарысам Л. І. Брэжнева, паслухаць гарачыя выступленні прамоўцаў.

***(працяг будзе)***

# Беларусы ў Атланце

Я — пастаянны чытач нашага тыднёвіка. Сачыў я за выступленнямі беларускіх спартсменаў на алімпіядзе ў Атланце, і рашыў, першы раз у жыцці, напісаць артыкул.

Закончыліся XXVI летнія алімпійскія гульні ў Атланце. Пачынаецца другое стагоддзе гісторыі наваЖытнай алімпіяды — першыя сучасныя алімпійскія гульні адбыліся ў Афінах сто гадоў таму. У ліку каля 200 краін-удзельніц у Атланце была і Беларусь, якая першы раз мела сваю алімпійскую рэпрэзентацыю ў летніх алімпійскіх гульнях (у мінулым спартсмены Беларусі выйгрывалі медалі для СССР, а ў Барселоне ў 1992 г. для СНД). Першы раз стартавалі спартсмены ў колерах такіх краін як Украіна, Расія, Харватыя і іншыя краіны, ад нядаўна незалежныя.

Беларускія спартсмены ў сваім алімпійскім дэбюце здабылі пятнаццаць медалёў: адзін залаты, шэсць сярэбраных і восем бронзавых. Вось спартсмены, якімі можа ганарыцца краіна Беларусь і ўсе беларусы ў свеце:

— Кацярына Хадатовіч — залаты медаль у веславанні;

— сярэбраныя медалісты: Аляксей Мядзведзь — бокс (130 кг), Уладзімір Дуброўшчык — кіданне дыска, Наталля Сазановіч — сяміборства, Ігар Басінскі — стральба з пісталета, Аляксандр Паўлаў — барацьба (да 48 кг), Сяргей Ліштван — барацьба (да 100 кг);

— бронзавыя медалісты: Васіль Капцюх — кіданне дыска, Эліна Зверава — кіданне дыска, Віталь Шчэрба — гімнастыка (на поручнях, на трапецыі, скок, індывідуальны конкурс мужчын), беларускі — васьмёрка ў веславанні, Валерый Чылент — барацьба (да 82 кг).

Вельмі цешыць такі паспяховы выступ беларусаў на алімпіядзе. Паказаліся яны з найлепшага боку і, дзякуючы ім, Беларусь стала больш вядомай у свеце. Выступілі яны ў зялёна-чырвоных колерах, пад новым сцягам і без Пагоні. Але ўсюды дзесьці можна было знайсці астаткі „старой" сімволікі — як на тэрыторыі Беларусі, так і ў Атланце. Вёслы, напрыклад, былі бел-чырвона-белыя і з Пагоняй.

Беларускія спартсмены далі нам многа радасці сваім высілкам, за які былі ўзнагароджаны ў моцнай міжнароднай кампаніі. Аднак нашы сэрцы былі б яшчэ больш шчаслівыя, каб у Сіднеі і на ўсім свеце і перад усім светам красаваўся сцяг, які лунаў у бітве пад Воршай у 1514 годзе.

**Адам Чурак**

# Дзе двое б'юцца

Аднойчы наведаў я бацькаўшчыну Латышонкаў, у Шаркоўшчыне, што ў Віцебскай вобласці. Спыніўся ў дваюраднага дзядзькі. На другі дзень на панадворку дзядзькавага суседа спыніўся нейкі чужаземскі мікрааўтобус, з якога высыпалася грамадка моладзі. Гаварылі яны між сабою па-англійску. Як растлумачылі мне сваякі, сусед — пастар баптыстаў. Яго сын таксама вучыцца на пастара недзе ў Швецыі. Вось прывёз ён місіянераў, як аказалася — шведаў і канадцаў.

Місіянеры пачалі дзейнічаць яшчэ праз дзень. Якраз было нейкае савецкае свята герояў, падчас якога прынята наведваць могілкі продкаў. Ушаноўваюць гэту памяць усё-такі па-хрысціянску. Прыбіраюць могілкі, моляцца. Усё было звычайна, пакуль не выйшлі мы з могілак.

Ля выхада стаяў грузавік з адкрытымі бартамі, пакрыты чырвонай тканню, з якога, відаць, прамаўлялі прадстаўнікі ўлады. Калі тыя скончылі, на грузавіку з'явіліся суседавы госці. Іхні галава загаварыў па-расейску пра Хрыста. Моладзь запяяла па-англійску і па-расейску. Завязаўся нават нейкі дыялог з публікай. Баптысты запрасіліся ў нядзелю ў царкву, каб там прадаўжаць размову пра Бога. Наогул — нічога цікавага. У нас пэўне ж мала хто і звярнуў бы ўвагу на тое, што адбываецца. А вось у Беларусі дзейнасць пратэстанцкіх місіянераў што-раз болей прыцягвае людзей.

Чаму гэта так, зразумеў я ў Вялікдзень у гэтай жа Шаркоўшчыне. Якраз упершыню дазволілі школьнікам пайсці ў царкву на ўсяночную. І прыйшлі... Усе п'яныя, гаварылі голасна між сабою, сёй-той з рукамі ў кішэнях і адвернуты задам да алтара. Проста, з нагоды свята мелі свабодны час і прыйшлі падзівіцца, раней загуляўшы. Да таго бацюшка быў такі стары і глухі, што не ведаў, што адбываецца і блытаў парадак літургіі, а хор старых бабуляў толькі пішчаў. Трэба глыбокай веры і прывязанасці да традыцый, каб гэтую ўсяночную адчуць як духоўную страву.

Відаць, у тым і хаваецца прычына поспеху пратэстантаў. Праваслаўе — гэта традыцыя, а раз парваную традыцыю немагчыма вярнуць. Можна стараца, але гэта будзе ўжо не тое. Спазнанне праваслаўя патрабуе ад неафіта сур'ёзнага інтэлектуальнага высілку. Тым часам праўды і абрады пратэстантаў простыя, даступныя кожнаму. І новыя грамады пратэстантаў растуць на постсавецкай духоўнай пустыні як грыбы пасля дажджу.

У Беларусі прадстаўнікі ўсіх веравызнанняў, каб весці легальную дзейнасць, мусяць рэгістраваць у дадзеным месцы рэлігійную грамаду. У 1970 г. зарэгістраваных было 382 праваслаўныя абшчыны, 107 каталіцкіх і 153 пратэстанцкія. У 1995 г.: праваслаўных — 902, каталіцкіх — 352 і пратэстанцкіх — 625. Пры такіх тэмпах росту пратэстанцкія абшчыны перавысяць колькасць праваслаўных прыходаў найдалей праз 10 гадоў.

Каб зарэгістраваць рэлігійную грамаду, досыць 10 чалавек, а грамада грамадзе няроўная. Тым не менш беларускі даследчык Юрась Шаўцоў лічыць, што колькасць вернікаў у кожнай пратэстанцкай грамадзе такая самая, як у каталіцкай парафіі і праваслаўным прыходзе — 500—800 чалавек. Гэта значыла б, што пратэстанты колькасна ўжо абагналі католікаў і даганяюць праваслаўных. Усё-такі, калі лічыць усіх хрышчаных праваслаўных і католікаў, іх намнога больш. На мой погляд, пратэстанты толькі раўняюцца з католікамі і яшчэ доўгі час не даганяць праваслаўных. Да таго трэба помніць аб тым, што большасць жыхароў Беларусі застаецца атэістамі.

Тым не менш колькасць пратэстантаў расце маланкавымі тэмпамі. Апошнім часам будуюцца аграмадныя малельныя дамы на тысячу вернікаў, вакол якіх гуртуюцца меншыя грамады. Самы вялікі малельны дом пабудаваны ў Кобрыне, на 1 800 седзячых месц.

Для Беларусі характэрнае яшчэ і тое, што большасць пратэстантаў — 70% — складаюць хрысціяне евангельскай веры (пяцідзесятнікі). За імі ідуць баптысты, а ўсіх іншых разам толькі 10%. Да таго пяцідзесятнікі і баптысты вельмі сабе блізкія, ствараюць часта супольныя абшчыны і не патрабуюць для пераходу з адной дэнамінацыі ў другую абраду перахрышчвання.

Юрась Шаўцоў лічыць, што па меры росту пратэстантызму знікае перспектыва стварэння ўстойлівай беларускай ідэалогіі на грунце нейкага веравызнання. Калі нават „аддаць" католікаў палякам, усё роўна праваслаўе не стане кансалідатарам нацыі з прычыны пратэстанцкай канкурэнцыі. Такім чынам, беларуская ідэалогія можа быць толькі паслядоўна свецкай.

Выглядае, што беларускі народ зноў пакпіў з беларускіх ідэолагаў. Колькі было спрэчак за нейкіх уніятаў, якія цяпер выглядаюць жалюгоднай жменькай інтэлігентаў без ніякай перспектывы.

Historia est magistra vitae толькі для тых, хто яе вывучае. Пратэстанты ж не першы раз з'яўляюцца на Беларусі. Праўдападобна сталі б галоўным веравызнаннем яшчэ ў XVI стагоддзі, калі б Вялікае княства Літоўскае не было часткай Рэчы Паспалітай, у якой перавагу мелі палякі-католікі. Другая хваля пратэстантызму з'явілася напрыканцы XIX ст. Тады пашырэнне пратэстантызму спынялі расейскія ўлады. У міжваеннае дваццацігоддзе ў БССР камуністы знішчалі ўсякую рэлігію. У Заходняй Беларусі польскія ўлады змагаліся з пратэстантызмам, бо праваслаўныя мелі паводле іх стаць католікамі, а не пратэстантамі. Да таго частка пратэстантаў звязалася з беларускім нацыянальным рухам. Даволі ўспомніць, што пратэстантамі, або прыхільнікамі пратэстантызму, былі ўсе сябры Цэнтральнага Камітэта Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

У сённяшняй Беларусі спыняць пашырэнне пратэстантызму няма каму. Праваслаўная Царква і каталіцкі Касцёл узнавілі адвечнае змаганне. Дзяржаўныя ўлады нібыта падтрымоўваюць праваслаўе, але сапраўды яны атэістычныя і ніякая рэлігія іх не цікавіць. Сам прэзідэнт заяўляе адкрыта, што ён праваслаўны... атэіст.

А пратэстанты, якія не дарабіліся яшчэ сваёй інтэлектуальнай эліты, вельмі ціхмяныя. У палітыку не лезуць, ніякая беларушчына іх не цікавіць. Ано моляцца і працуюць...

Безумоўна, да часу.

**Алег Латышонак**

P.S. Лічбы прыводзяцца за: Ю. Шаўцоў, *Феномэн палескага неапратэстантызму і некаторыя тэндэнцыі развіцця*, „Форум", вясна 1996, н-р 3.

# На шляху адраджэння

***(працяг са стар. 1)***

на тое, каб завярнуць усіх ветрагонаў і нягоднікаў!

З Гарадка ідзе група з дваццаці чалавек. Найбольш там вучаніц пачатковай школы. Разам з Гарадком перадольваем чарговыя кіламетры. Часам чуваць там і беларускую мову. Пад вечар заходзім у мясцовую царкоўку ва ўрочышчы Пяценка. Царкоўка захапляе мяне прастатой і сціпласцю. Побач зялёнай царкоўкі абсаджаны векавымі соснамі могільнік. Тут спачывае Міхась Красоўскі (Дзядзька Квас), і ягоную магілу наведваем з Вясловам Харужым. Прыгадваем і паломніцтвы з міжваеннага перыяду, якія так цікава апісаў Міхась Красоўскі ў „Роздумах на калёсах". Зараз у Пяценцы толькі раз у месяц адпраўляецца богаслужба. У навакольных вёсках нямнога ўжо праваслаўных жыхароў. У Тыльвіцы, куды вязуць нас начаваць, толькі тры мужчыны. Нашы гаспадары, **Ніна і Ян Ціванюкі**, як маглі дагаджалі паломнікам. Падрыхтавалі яны багатае, поснае застолле, быццам з нагоды Каляд.

— Можа вінца крышку вып'еце? — ціха пытаецца наша гаспадыня.

— Ой, што вы?! — катэгарычна запярэчваюць паломнікі.

Разам са мной **Аля і Вяслаў Харужыя** ды з дваццаць беластачанак. Дзве старэйшыя, мілыя *пані*, настаўніцы. Яны сваім прыкладам падказваюць пачаткоўцам, як павінен весці сябе сапраўдны паломнік. У асноўным трэба прытрымоўвацца трох прынцыпаў: цешыцца ўсім, што маеш, ніколі не нараканць і дзякаваць за ўсё Богу. Перад і пасля кожнага пасілкавання паломнік абавязаны памаліцца, а, развітваючыся з гаспадарамі, папытаць пра іх імёны, каб ужо на Грабарцы падаць запіску за іх здароўе.

— Napisz mi zapiskę, — просіць маладая беластачанка, — bo nie znam białoruskiego.





Дзяўчына дыктуе мне імёны: Ніколая, Степана, Елены...

З жыхарамі Тапалянскага прыхода (туды ж належыць царкоўка ў Пяценцы) развітваемся са слязамі на вачах. Ахвярныя і гасцінныя там людзі пражываюць. Здаралася, што ў аднаго гаспадара па шэсцьдзесят асоб начавала.

— І нам радасна, дзеткі, — гаварылі мясцовыя бабулі, — што вы, гарадскія, нашай праваслаўнай веры трымаецеся.

* * *

Пасля трыццацікіламетровага маршу зноў выходзім у паломніцтва. Перад намі не меншы адрэзак у Ласінку.

Другі дзень паломніцтва выпаў сонечны і сухі. Многія ўдзельнікі паспелі намуляць ужо многа мазалёў, іншыя збіліся з ног і, прыкульгваючы, трымаліся калоны. У чацвер іду разам з *чырвонай* групай, дзе паломнічаюць беластачане з прыхода на Выгодзе. Са мной сужонства Аля і Вяслаў Харужыя, за намі беларускамоўныя айцы: Анатоль і Іаан. Айцец **Іаан Федарчук** ужо дзесяты раз паломнічае з Беластока на Грабарку. Доўга размаўляем пра мінулагодні паломніцтвы, пра беластоцкае праваслаўе і беларускую рэлігійную літаратуру. Айцец **Анатоль Гайдучэня** расказвае пра адраджэнне праваслаўя сярод беластоцкай моладзі. Аказваецца, паспрыялі гэтаму занятки рэлігіі ў школах. У прысутнасці айцоў, Алі і Вяслава незаўважна мінаюць час і дарога. Ідзем, не адчуваючы ні прасторы, ні прамінання, песні самі льюцца з душы, і адчуваеш, што побач цябе твае браты і сёстры. Не страшна зваліцца ў такой групе, бо ведаеш, што цябе не патопчуць, а толькі падтрымаюць і акажуць дапамогу. „Чаму ж так добра маршыруецца ў гэтай грамадзе?" — думаю сабе, мінаючы святочна ўсхваляваных жыхароў вёсак, родныя падляшскія нівы, цэрквы і магілы продкаў. Пэўна і таму, адказваю сабе, што беларусы рэдка спазнаюць пачуццё еднасці са сваімі суродзічамі.

***(працяг будзе)***

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Яўрэі

Мая пакойная бабуля і яе сяброўкі, гутарачы з сабою, часта ўспаміналі жыццё ў міжваенны перыяд. Многа месца ў сваіх гутарках адводзілі яны яўрэям.

Яўрэі жылі толькі ў большых вёсках, такіх як Нараўка ці Ялоўка. Стараліся трымацца разам, непадалёку ад сябе. Займаліся галоўным чынам гандлем; усе мелі крамы. Былі яны людзьмі спагадлівымі: калі нехта папрасіў у іх хлеба — не шкадавалі; нават тыя найбяднейшыя... Нават калі толькі адну скібку мелі — перарэзвалі яе напалову; дзяліліся, чым маглі.

Па суботах нічога не рабілі, быў гэта іх святочны дзень *шабас*. Нават агню тады не распальвалі; плацілі пару грошаў нейкаму дзіцяці або даросламу, каб зрабіў гэта за іх.

На восень, у дажджлівыя дні, выпадала ў іх свята, якое нашы называлі *кучкамі*. Старажылы і цяпер гавораць: „Няма пагоды, бо кучкі жыдоўскія". Трывала яно некалькі дзён, падчас якіх нельга ім было нічога есці, апрача *мацы* — спецыяльнага на гэтае свята пячэння.

Людзі ўспаміналі, што ў яўрэяў можна было купіць вельмі смачныя селядцы, якія называлі шмальцоўкай.

Калі яўрэі бачылі, што нехта мнецца каля крамы, выходзілі і прыпрашалі, цягнучы за рукаў: „Хадзі да мяне, у мяне танней купіш — я табе спушчу пару грошаў". Ялоўскія яўрэі прадавалі танней, чым нараўчанскія, бо там людзі былі бяднейшыя.

Запомнілася мне адно здарэнне, пра якое я чула. У Нараўку адзін яўрэй прывёз у сваю краму прыгожы матэрыял, які вельмі ўсім спадабаўся. Дзвюм дзяўчынам з нейкай навакольнай вёскі ўдалося ўкрасці добры кусок таго матэрыялу. Пашылі сабе з яго блузкі і адзелі іх, калі ішлі да сваячкі на вяселле. Вяселле калісь, вядома, ехала на фурах, і хто мог, той выходзіў, каб паглядзець на маладых і дружбу. Выйшаў і той яўрэй, і пабачыў, што тыя дзяўчаты апрануты ў блузкі, пашытыя з яго матэрыялу. Пабег за фурай, на якой яны сядзелі і затрымаў каня.

— Чаго табе трэба, парху! — крыкнуў на яго вазак. (Пархамі нашы празывалі яўрэяў, калі былі ў злосці.)

— Вашы дзяўчаты ўкралі ад мяне матэрыял, — паясніў яўрэй. — Я хачу, каб мне за яго заплацілі, а не — то я распрану іх.

Усе вясельнікі пачалі смяяцца з дзяўчат. Тыя сталі прасіць, цалуючы па руках і нагах яўрэя, каб пусціў іх, абяцаючы, што бацькі заплацяць. Так і сталася, бо бацькі баяліся, што гандляр можа далажыць паліцыі.

Калі ў Нараўку прыйшлі немцы, яны жорстка абышліся з яўрэямі. Бягом пагналі іх у лес, загадалі выкапаць дол, а пасля расстралялі ўсіх і закапалі. Пра гэта чула я ад бацькі маёй хроснай маці, які ў той дзень быў акурат у Нараўцы. У апусцелыя яўрэйскія дамы, якія стаяць па сённяшні дзень, пасяліліся нашы людзі.

Праз той лес, дзе пахаваны нараўчанскія яўрэі, пасля вайны клалі чыгуначную пуць. Мела яна праходзіць акурат праз тое месца, дзе ў брацкай магіле пакояцца расстраляныя. Мясцовыя далажылі пра гэта будаўнікам чыгункі і тыя ўнеслі карэктуру ў свае планы, каб ушанаваць месца вечнага спачывання яўрэяў.

Аўрора

# Смерць на „Багданісе"

**Ёсць на ўрочышчы Рабінаўка за Меляшкамі небяспечнае месца званае „Багданіхай". Зусім не выглядае яно па-чартоўску: лагчынка, абапал дарогі дзве старыя вярбы. Адна вярба і звалакла сваім голлем Геніка Шусціка, які ехаў на цюках на загружанай сенам прычэпе трактара.**

— На „Багданісе" не скажу, каб штосьці страшыла, — кажа Вера Лявіцкая, першая ў ваколіцы спецыялістка ад пярэпалаху і замоў ад прастуды. — Адно магу сказаць, што мне самой давялося ратаваць Лёньку, калі яе там конь панёс, і Біцолта. У гэты раз Геніка ніхто не ўратаваў.

Адны яго не бачылі, іншыя не чулі, як у той вечар, усю ноч, аж да поўдня наступнага дня енчыць і стогне ён, трыццацічатырохгадовы паранены мужчына. Праўда, заўважылі яго гаспадары і дзеці на суседнім хутары, але думалі, што гэта нейкі п'яны качаецца на дарозе з лугоў. А больш ніхто пасля Геніка са сваяком па той дарозе не ехаў...

Чаму ў той час яго ніхто не шукаў? Калі сядалі на загружаны трактар, Генік паведаміў сваяку, што па дарозе саскочыць, купіць сабе ў краме цыгарэты і пойдзе да бацькоў. Калі трактарыст агледзеўся, прыехаўшы на свой падворак, што сябра на сене ўжо няма, так і падумаў: пайшоў ён дадому. Бацькі пацярпелага меркавалі, што Генік астаўся ў сваякоў. На другі дзень пазванілі з Гарадка (дзе Шусцік працаваў у прыватнай сталярні), пыталіся, чаму не прыйшоў ён на работу. Геніка ведалі як сумленнага, працавітага і адказнага хлопца. Толькі тады пачаліся пошукі, ужо ў атмасферы страху і прадчуванні благога.

Геніка знайшлі на „Багданісе" пад старою вярбой, якая ў мінулы дзень зграбла яго сваім магутным голлем пад свой ствол. Хлопец меў паламаны пазваночнік, бяздзейныя рукі і ногі. Ужо траціў прытомнасць. За ноч так яго абкусала камарня, што твар і рукі былі адной ранай. Да таго яшчэ, лежачы нерухома столькі часу на падмоклай зямлі, у расе, моцна прастыў. У бальніцы ў Беластоку, куды яго павезла спозненая скорая дапамога, пачалі яго спачатку лячыць ад запалення лёгкіх.

Пралежаў больш за месяц. Пачаў папраўляцца, есці — але якая ж гэта суцеха для бацькоў, калі сын, амаль поўнасцю, паралізаваны... Але хоць жывы. Адзін ён цяпер жыў з бацькамі...

Хавалі яго ў пятніцу. Моладзь і суседзі з Гарадка, Меляшкоў, Белявіч і іншых вёсак наведалі яго ў апошні раз. Мала ў нас па вёсках маладых, а і іх прыходзіцца адводзіць на пагост.

З Меляшкоў, даўней людной, актыўнай вёскі, якая бурліла і культурным жыццём, толькі пару дзетак ездзяць у гарадоцкую школу. У прыгожым (яшчэ) будынку старой школы, дзе нейкі італьянец заснаваў быў фабрыку абутку, нейкі час Генік Шусцік пільнаваў пакінутае дарагое абсталяванне. Казалі, на суцеху шматлікім беспрацоўным Гарадоцкай гміны і не толькі, што фабрыка рушыць з прадукцыяй, „калі пацяплее". Але ўжо нейкі час, гавораць людзі, няма чаго тут і пільнаваць, бо навошта каму тыя машыны, хоць і такія вялікія ды дарагія! Нават украсці іх нікому не хочацца.

Міра Лукша

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Калі ў 1914 годзе распачалася першая сусветная вайна, спачатку не надта адчувалася ў нас яна, бо была яшчэ далёка. Толькі штораз больш пачало паяўляцца рускага войска. Яно то праходзіла праз нашу тэрыторыю, то сям-там кватаравала. А калі рускія салдаты, то і розныя фокусы звязаныя з імі. Такіх смешных здарэнняў, звязаных з рускімі салдатамі, народная памяць захавала мноства. Вось некаторыя з іх.

Праз нашу вёску ў напрамку фронту стройнымі калонамі валіла царскае войска. А было яго мноства-мноства. Народ павыходзіў з хатаў паглядзець на іх. Нашы людзі спачувалі расійскаму салдату, бо добра ведалі цяжкую салдацкую службу і долю. Выйшла паглядзець на войска і бабка Пэтрыха. Яна, здзіўленая такой колькасцю салдат, а ведаючы якім складаным і нялёгкім бывае нараджэнне і выхаванне хаця б аднаго толькі чалавека, наіўна запытала: „Салдацікі, салдацікі, чы ж у всех вас матэрыэ е?" Адзін салдат весела ёй адказаў: „Нет у нас матерей, бабушка, у нас солдат солдата родит!" Усе весела зарагаталі. І бедная Пэтрыха так і не даведалася, ці салдат у Расіі робяць і родзяць традыцыйным і ёй вядомым спосабам, ці так, як салдат казаў...

У адным з нашых прыходаў, ці не ў Бельску часам, у час нейкага свята адбывалася царкоўная служба і хрэсны ход. Вёў працэсію, як і паложана, бацюшка. Паабапал дарогі, па якой ішла са святымі песнямі працэсія, набожна стаялі людзі і маліліся. Сярод багамольцаў былі і салдаты. Атмасфера была наздвычай урачыстая, святочная. Раптам з натоўпу багамольцаў маланкава кінуўся да бацюшкі салдат, моцна ахапіў перапуджанага святара сваімі салдацкімі рычышчамі і радасна закрычаў на ўсю глотку: „Гришка, ёб твою мать, так ты здесь батюшкой?!" Працэсія знямела, айцец Грыгорый таксама. Ён толькі і здолеў выціснуць з сябе словы: „Тише, тише".

Калі вайна пачала прыбліжацца да нашай мясцовасці, паявіліся новыя абавязкі ў нашых сялян — абавязкі перад ваюючай арміяй і фронтам. Сялян пачалі пасылаць на розныя работы для фронту. Пасылалі ў асноўным пешых, але здаралася, што пасылалі ў бок фронту і з падводай. З нашай вёскі ехаць з падводай былі назначаны дзве асобы: нейкі Захарко і мой дзед Амяльян, з чаго яны, канешне, не былі задаволены. І не дзіва, дарога была далёкая і цяжкая; шкада было коней і вазоў, якія і мучыліся, і ніштчыліся, і можна іх было страціць у такой дарозе. Пешых былі кіраваны ў асноўным да капання акопаў, а з падводай — у абоз.

З цяжкім сэрцам выязджаў Амяльян з дому. Перажывала яго ад'езд і ўся сям'я. Гэта быў ужо моцна неспакойны час — і ў дарозе, і дома ўсё магло здарыцца. Яшчэ больш напалілася атмасфера, калі дзед доўга не вяртаўся дадому. Сям'я проста праплакала па ім вочы, думалі ўжо, што ён загінуў.

І раптам прыязджае дзед. Усе кінуліся да яго, а ён жывы і цэлы. Да таго ж вясёлы, задаволены, сыты. Пазней аказалася, што і нейкі грош мае пры сабе, і моцна, як кажуць, падкаваны ў вайсковых справах.

Хаця ў той час вайсковая служба была ўжо абавязковай для ўсіх, але ў арміі Амяльян ніколі не служыў, бо быў адзінакам, а іх тады з вайсковай службы звальнялі. Толькі ў час гэтай паездкі ён стаў пазнаваць першыя азы вайсковага рамяства, і вельмі хутка спецыялізаваўся ў выбіранні адпаведнай пазіцыі для лініі фронту. Проста стаў, можна сказаць, экспертам у гэтай справе.

Справа ў тым, што Амяльян са сваёй падводай быў прыдзелены ваеннаму сапёру возчыкам. Вазіў гэтага сапёра здоўж лініі фронту, канешне, у адпаведнай адлегласці. Сапёр выконваў там даручанае яму заданне, а Амяльян вазіў яго і дапамагаў яму. Відаць, добры прайдоха быў гэты сапёр, бо, па-за сваімі непасрэднымі абавязкамі, займаўся яшчэ рознымі камбінацыямі, у круг якіх уцягнуў і майго шаноўнага дзеда.

Едучы, напрыклад, па дарозе, сапёр выбіраў багацейшага гаспадара і пачынаў дакладна аглядаць аколіцу (па вайсковаму гэта рэкагнасцыроўкай называецца), а Амяльяну казаў тым часам біць падрыхтаваны ў возе калочкі, зазначаючы імі лінію, ды так хітра, каб яна абавязкова праходзіла праз панадворак, стадолу, млын ці хату гэтага гаспадара.

Устрывожаны селянін хутка заўважаў гэта, нясмела падыходзіў да дзеда, бо рускіх ваенных пабойваліся палякі, і пытаўся: „Panie, co to ma być?"

Навучаны сапёрам дзед, падазрона аглядаўся па баках, зніжаючы да шэпту свой голас, даверліва і зычліва інфармаваў, што хутка рушыць фронт і яны вызначаюць тут новую лінію фронту, а ў вызначаным імі месцы хутка пачнуць капаць акопы.

Перапуджаны чалавек пачынаў прасіць дзеда, ці не далося б перанесці гэтую лінію ў іншае месца. Дзед кіраваў яго да начальніка, а ён благаў, каб з начальнікам пагаварыў сам дзед. Дзед пачынаў набіваць цану, што начальнік яго чалавек суровы, а ўвогуле з вайсковымі людзьмі і справамі няма жартаў. Суразмоўца нібыта і сам дасканала аб гэтым ведаў, але можа аднак, шкадаваць гэтага не будуць.

Пасля такіх просьбаў Амяльян мякчэў, спускаў са службовага тону. Калі ён ішоў „прасіць" сапёра, гаспадар пёр у хату рыхтаваць пачастунак. А што было за сталом, то і перапказаць цяжка. Пасля некалькіх кілішкаў аказвалася, напрыклад, што: „Polak i Rusek to też dwa bratanki" і гэтак далей, і таму падобна...

Пасля багатага застолля Амяльян п'янага сапёра і ўвесь стратэгічны матэрыял грузіў на сваю калымагу і адвозіў іх і лінію фронту ў іншае месца.

***(працяг будзе)***

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**1 верасня**

1715 г. — пасля 50-гадовага панавання памёр Людовік XIV, кароль Францыі.

1939 г. — нападзеннем Вермахта на Польшчу пачалася II сусветная вайна.

1946 г. — у рэферэндуме насельніцтва Грэцыі выказалася за манархіяй.

1962 г. — у выніку землятрусу ў паўночна-заходнім Іране загінула каля 10 тыс. чалавек.

1969 г. — палк. Муамар Кадафі звяргнуў з трона караля Лівіі Ідрыса I.

1970 г. — памёр Франсуа Марыяк, французскі пісьменнік.

1983 г. — савецкая баявая машына СУ-15 збіла паўднёвакарэйскі самалёт *Jumbo Jet* з 269 чалавекамі на борце.

**2 верасня**

1666 г. — у адной з лонданскіх пякарняў успыхнуў пажар, які на працягу пяці дзён знішчыў амаль цэлы горад.

1870 г. — капітуляцыя Францыі перад Германіяй у выніку бітвы пад Седанам.

1923 г. — самы цяжкі ў гісторыі землятрус у раёне Токіо; загінула больш за 100 тыс. чалавек.

1937 г. — памёр П'ер дэ Кубэртэн, французскі ініцыятар сучасных алімпійскіх гульняў.

**3 верасня**

1658 г. — памёр Олівер Кромвель, англійскі палітык.

1783 г. — у Парыжы Вялікабрытанія прызнала самастойнасць ЗША.

1875 г. — нар. Фердынанд Поршэ, нямецкі аўтаканструктар.

1883 г. — памёр Іван Тургенеў, расейскі пісьменнік.

1939 г. — а 11-й гадзіне Вялікабрытанія аб'явіла вайну Германіі, а а 17-й — Францыя. Вайну Германіі аб'явілі таксама Індыя, Аўстралія і Новая Зеландыя.

1944 г. — альянты вызвалілі Брусель.

1967 г. — пераход Швецыі з лева- на правастаронні дарожны рух.

1976 г. — амерыканскі зонд *Viking-2* прызямліўся на паверхні Марса.

**4 верасня**

973 г. — нар. аль-Біруні, персідскі вучоны.

1907 г. — памёр Эдвард Грыг, нарвежскі кампазітар.

**5 верасня**

1568 г. — нар. Тамаза Кампанела, італьянскі філосаф.

1638 г. — нар. Людовік XIV, французскі кароль.

1928 г. — у Лондане Аляксандр Флемінг адкрыў пеніцылін.

1939 г. — прэзідэнт Рузвельт заявіў аб нейтралітэце ЗША ва ўспыхнуўшай вайне.

**6 верасня**

1522 г. — у Іспанію вярнуліся ацалеўшыя ўдзельнікі першага кругасветнага плавання, у якое адправіліся яны амаль тры гады раней пад камандаваннем Фернана Магелана.

1918 г. — заснаваны Рэвалюцыйны ваенны савет, узначалены Львом Троцкім, галоўны камандны орган бальшавіцкіх сіл.

**7 верасня**

1664 г. — Петрус Стуйвесант, апошні нідэрландскі губернатар Амерыкі здаўся ў Новым-Амстэрдаме (сённяшнім Нью-Йорку) англічанам; канец каланіяльнай прысутнасці Галандыі ў Паўночнай Амерыцы.

1822 г. — Бразілія аб'явіла незалежнасць ад Партугаліі. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Сніўся мне страшны сон, які навёў на мяне тугу і пярэпалах. Прыходжу я на працу, а мне кажуць, што памерла наша супрацоўніца. Я пачала вельмі моцна плакаць, бо яе вельмі люблю і паважаю. Усе пачалі лямантаваць, усім перад вачамі яна стаіць, а мне асабліва яе твар, як працуе, схіленая над клавіятурай камп'ютэра. Пасля ідзем на пахаванне. Кажуць, што яе цела спаляць у крэматорыі. Кажу: „Яна напэўна не згадзілася б, лепш было б яе пахаваць традыцыйна". Многа народу. А той крэматорый выглядае вельмі дзіўна. Стаім на нейкім паверсе, за балюстрадай, глядзім уніз, а там быццам басейн, напоўнены чымсьці кіпучым, бы вогненнай масай. Думаю, а што ж гэта такое, а мне кажуць, што хіба будуць зверху кідаць труны (хаваць мелі не толькі нашу калегу, але і яшчэ двое ці трое, бо стаяць унізе іхнія труны). Тыя труны ўсунулі ў нейкую нішу, а праз пару хвілін яны высунуліся назад (я чакала, што будзе высыпвацца адтуль попел). Труна мела шкляную покрыву, а ўнутры, замест цела нашай сяброўкі, ляжыць нейкая быццам лялька, з цвёрдай масы, нейкай дзіўнай формы, быццам матрошка, і твар нейкі іншы, здэфармаваны, але гэта напэўна наша супрацоўніца. Быццам так змуміфікавалі яе цела. Падышоў нейкі чалавек у шэрым плашчы да зямлі (твару не відаць), заладаваў труну на нейкую тачку і моўчкі павёз.

**МІРКА**

Мірка! Твой сон даволі супярэчлівы. Усё, здавалася, мела ісці ў цябе добра. Сама глядзі, калі памерла твая супрацоўніца, магло б гэта і ёй, і табе абазначаць доўгае і добрае жыццё. Тое, што ты плакала, таксама абазначала б для цябе радасць. Але... замест спадзяванай радасці можа вынікнуць даслоўна нейкае пекла, якое прынясе табе жыццё. Аб гэтым папярэджваюць цябе многія факты з твайго сну: тая вогненная маса, якой быў напоўнены басейн, труны, лялька ў труне замест цела тваёй сяброўкі. Меў быць для цябе прыбытак, а вынікне з гэтага нейкі фальш і клопат.

**АСТРОН**

# Панскае заступніцтва

Гэта было даўным-даўно — 133 гады таму, у 1863 годзе. Казакі пабілі паўстанцаў у перацёсах за вёскаю Радунін. Нехта данёс паўстанцам на майго дзеда, што дзед мой далажыў казакам пра паўстанцаў, хаця не меў ён да гэтага ніякага дачынення. Дзед мой служыў тады фурманом у пана Арцішэўскага і паўстанцы тыя прыйшлі да таго пана Арцішэўскага і пытаюць пра дзеда. Пан адказаў, што спіць. Яны загадалі збудзіць, дадаючы, што болей ён ужо спаць там не будзе. Пан спытаў, у чым тут справа, і яны яму расказалі. Арцішэўскі адказаў, што гэта нейкае недаразуменне, бо яго фурман гэтага напэўна не зрабіў, але збудзіў яго. Паўстанцы загадалі, каб дзед правёў іх лесам у Жэдню. Мой дзед ахвотна згадзіўся ды, будучы чалавекам вясёлага складу, усю дарогу жартаваў і падсвістваў. Калі былі ў палове дарогі з Заязерцаў у Жэдню, дзе стаяў крыж, які і сёння там стаіць, затрымаліся. Двух паўстанцаў адышло набок і аб нечым між сабою шапталі; меркаваўі, відаць, што зрабіць з маім дзедам. І атрымалася так, што майго дзеда адпусцілі.

Калі дзед вярнуўся да пана, таму аж вочы на лоб палезлі ад здзіўлення, што яго фурман вярнуўся.

— А чаму ж меў бы не вярнуцца? — спытаў дзед.

Тады Арцішэўскі выявіў, чаму дзеда павялі паўстанцы.

— Дык чаму пан за мною не ўступіўся? — зноў спытаў дзед.

— А я і ўступаўся за табою, але тады гэта не дало ніякага выніку, — адказаў пан.

Усё-ткі паўстанцы мусілі ўзяць пад увагу заступніцтва пана Арцішэўскага, бо калі б не гэта, не было б на свеце ні майго бацькі, ні мяне.

**Аляксандр БАРТАШЭВІЧ**

# Крыжаванка



**Гарызантальна**: 3. цэнтр старажытнага Двурэчча да 2200 г. да н.э., 8. нацыя, народнасць, 9. магутная бура, 10. хлопец, 11. стан псіхічнай узбуджанасці, 13. плата за карыстанне маёмасцю, 15. навуковая ўстанова, 16. вынаходца тэлеграфа, 20. старшыня, 22. уласнік, уладар, 23. выспа Адысея, 27. штаны, 29. від папугая, 30. горад на поўначы Беларусі, 31. натрыева соль вугальнай кіслаты, 32. дзіця, якое не мае бацькоў, 33. частка твару, 34. заклік.

**Вертыкальна**: 1. руль, 2. папярочка, на якую вешаюць шторы, 4. раздзел механікі, 5. старадаўняя сярэбраная або залатая манета ў Італіі, 6. вайсковы выхаванец, 7. група разбойнікаў, 12. выпадзенне снегу, 14. адзенне на кісць рукі, 16. прыстаўка, якая абазначае мільённую кратнасць, 17. прыкмета, асаблівасць, 18. жаночае імя, 19. ячэйкі водных жывёл, 21. рака ў Бірме, 24. лік, 25. пахучая, прыгожая расліна, 26. буйная млекакормячая жывёла трапічных лясоў Амерыкі, 27. возера ў Беларусі, 28. сямейная птушкі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 28 н-ра:**

**Гарызантальна:** сорам, прозвішча, гразь, клерк, Ван, матэрыя, іпадром, зал, аўтар, пацан, радыкуліт, раман.

**Вертыкальна**: правіла, столь, мяшок, прарэктар, апендыцыт,Гаага, клоун, вяз, Ніл, Атакама, радар, палон.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска і **Міколу Байко** з Беластока.

# ПАРНАСІК

## Лета халоднае і ў промнях

Лета халоднае
Ды не галоднае.
Усё ўрадзіла
Вельмі, надзіва.
Сенакос прайшоў гладка
Дый усё ў парадку.
Сена схавалі
І Тварца праслаўлялі;
Хоць мо не шматлікія,
Ды малітвы іх вялікія,
Да Бога чэсць маюць,
Яго праслаўляюць.
І зноў пацяплела —
Зямля захацела,
Каб скора ўсё расло
І плён прынясло.
Другі сенакос
Пагоду прынёс.
Сабралі атаву
Скора, на славу.
Збожжа ўрадзіла,
Да зямлі не прыбіла.
Пакланіліся каласы налітыя
І небам прыкрытыя.
Жыта даспела —
Толькі выжаць умела.
Селянін гэта дацэніць,
Плана не адменіць.
Гудзяць ужо касілкі,
Пойдуць у рух малацілкі.
Ды камбайн не хоча здавацца —
Толькі цешыцца і не злавацца.
Пасля чарга на пшаніцу, авёс...
Такі селяніна лёс:
Сее, збірае, працуе як конь —
Шлю яму верны і нізкі паклон.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

## Балаган

Прыйшлося мне паехаць у горад
Ды на таўкучцы пабываць.
Добры людзі, што я бачыў!
Ой, які ж там балаган!
Толькі першы крок паставіў,
Закружылася мне галава:
Хочаш *шпірту*, хочаш піва,
Калі не па сорак пяць.
Прыйшла мне ў галаву думка:
Дзе тут нашы старажы,
Каб парадку даглядаці,
Чэрцяў гнаці з-за мяжы.
Ты паслухай, што рабіці,
Ці далей так пажываць?
Яны будуць нас труціці,
Ад нас грошы выдзіраць.
Ваявода, ты падумай,
Дай суровы ўсім загад,
Каб гандляры добра пазналі,
Што парадак ёсць у нас.
Ну й паліцыі каханай
Ты хоць крышку падкажы,
Каб парадку даглядалі
Гэты нашы „старажы".

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**





**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Эпіграмы з антыподаў

**Чорная дама**

Паэтэса і празаічка,
спрытная, як лісічка.
Піша байкі, нават былі
(ці былі яны, ці не былі).
Піша смела ды ўмела,
толькі не ўсё зразумела.
Ды і вершы піча часам,
што з'есці можна з квасам,
хоць і кіслыя бываюць,
але доўга не трываюць
ні ў галаве, ні ў шлунку,
бо нез'ядобнага гатунку.
А як зваць яе — не знаю,
Вось дык lady называю,
Girl ці miss, а мо madame,
Signorina, можа — pani...
Даме гонар словам дам,
Разбірайцеся вы самі.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

# П'яны

Двое мужчын прывялі п'янага калегу дадому, ды і гавораць ягонай жонцы, што ён п'яны.

— Дык ён, па-вашаму, п'яны?! — гыркнула жонка.

— А што! Можа не?! — здзівіліся сябры мужа.

— Пэўна, што не! Калі двое валакуць яго пад рукі, а трэці ногі яму перастаўляе — вось тады ён п'яны!

**Аляксандр Барташэвіч**




*Малюнак П. Козіча*

# Ніўка




*Малюнак Л. Разладава*

# Падвох

Не паспеў Яфрэм Савойка распланаваць свой выхадны, як задырчэў тэлефон.

— Прабачце, што трывожу вас, — пачуўся прыемны жаночы голас, — але мне трэба пагутарыць з Таранькіным. Ён жа ваш сусед недалёкі. Мо паклікалі б?

Савойка кінуў незадаволены позірк на акно, за якім цадзіў дождж, і прабурчаў:

— Чакайце. Калі ён толькі не на рабоце.

Голас яшчэ ласкавей рассыпаўся прабачэннямі і тлумачэннямі:

— Не-не. Яму ўчора адгул далі. Мо спіць, дык вы пазваніце мацней, пастукайце нават...

Яфрэм накінуў цырату, прыкрыў дзверы і выйшаў на вуліцу. Яна патанала ў шэрым імглістым змроку. Вакол — ні душы. Так званыя спадары — індывідуальныя забудоўшчыкі — даўно пры справах. Савойка хвілін дзесяць званіў і цярпліва чакаў. Потым столькі ж дубасіў у дзверы і ляпаў у шыбы з таго боку, дзе была суседава спальня. Цішыня. Пра яе Яфрэм і паведаміў жанчыне. Тая падзякавала.

— Вы — добрай душы чалавек і вельмі сумленны. А сёння гэта вялікая рэдкасць. Вы зрабілі для мяне больш, чым я разлічвала. Я аддзячу за шчырасць. На ганку падарунак ад мяне. Будзьце заўсёды згаворлівым. І пабольш бы такіх, як вы.

Трубка цмокнула і запіпікала.

Савойка не паленаваўся і выйшаў з хаты. На ганку сапраўды ляжаў... залаты пярсцёнак. Савойку нібы доўбняй па галаве ляснулі:

— Гэта ж мой!

Ён ірвануўся назад у хату. У зале, дзе стаяў магнітафон, зеўрала парожняе месца. Сіратліва выглядала шафа без скуранога паліто, жончынай норкавай футры і трох пар белвестаўскага абутку. Жалобна звісла шуфлядка, дзе звычайна ляжалі залатыя вырабы...

— Абчысцілі! — Толькі і паспеў зрабіць вывад Савойка, як зноў затрашчаў тэлефон.

— Яфрэмка, міленькі, гэта Зося Піліпава. Мо паклікаў бы маю нявестку?

„Во прычапіліся! Мабыць, не ўсё вынеслі, — мільганула думка. — Шукайце дурняў у іншым месцы, а я ўжо навучаны".

Савойка шпурнуў трубку, затым схапіў яе і ліхаманкава пачаў набіраць нумар тэлефона міліцыі.

**Галіна Сутула**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Тата! Што гэта такое кампраміс?

— Паясню табе на прыкладзе. Мама хацела купіць футра, а я хацеў купіць самаход. А выйшла так, што купілі паліто і павесілі яго ў гаражы.

* * *

— Татка, чаму мы так позна прыйшлі ў гэту краму?

— Многа не гавары, толькі перарэзвай замок.

* * *

— Што ты прынёс у гэтым футляры замест скрыпкі? — дзівуецца настаўніца музыкі. — Гэта ж пісталет-аўтамат...

— Ой, што я нарабіў! Бацька напаў на банк са скрыпкай.

* * *

У атэлье:

— Не магу наглядзецца на гэту вашу карціну, — кажа госць.

— А я ўжо наглядзеўся і ахвотна вам яе прадам, — адказвае мастак.

* * *

Маці ўбягае ў пакой і бачыць, як дачка цалуецца з нейкім кавалерам:

— Спадзяюся, што вы чалавек гонару і ведаеце, як у гэтай сітуацыі сябе паводзіць!

— Так! І таму прашу пакінуць саміх нас тут яшчэ паўгадзіны.

* * *

Камінар да сябра:

— Калі іду на працу, усе пабачыўшы мяне, хапаюць за гузікі.

— А калі я прыходжу на працу, усе хапаюцца за галовы.

* * *

Ксёндз пасля дашлюбных курсаў экзаменуе нарачоных. Дзяўчына адказвае жвава, а хлопец мнецца нерашуча. Расчараваны ксёндз загадвае ім прыйсці паўторна праз месяц.

Мінуў тыдзень. Дзяўчына зноў з'яўляецца з хлопцам у ксяндза.

— Я ж вам гаварыў прыйсці праз месяц, а не праз тыдзень, — кажа святар.

— Ваша вялебнасць, — паясняе дзяўчына, — гэта не той кавалер, што не raз даў катэхізіса. Гэты ўсё знае як трэба!

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Сорамна мне пісаць такое, але мушу з кімсьці падзяліцца, мо будзе мне лягчэй.

Сёлета летам я была ў лагеры. Месца цудоўнае, лес, возера. Толькі марыць ды кахацца! А я адна. Сяброўка мая са школы (мы з ёй у другім класе ліцэя цяпер) нябось не дурніца: з хлопцам сваім прыехала. Я глядзела на ўсё гэта і мне аж моташна рабілася. Думаеш, я ёй зайздросціла?! О, не! Але момантамі дык аж гадка было, бо ўвесь час, нягледзячы на тое, што побач людзей было поўна, прытуляліся, цалаваліся, рабілі пры ўсіх нейкія эратычныя падыходы — то ён ёй пагладжваў сярэдзіну далоні, то яна яму пачэсвала яго карк. Відаць было, што адпаведнай літаратуры яны начыталіся!

Ну, а што ж ужо тут гаварыць пра мяне! Мяне яны зусім не саромеліся. Мы з сяброўкай жылі ў адным доміку, дык яны мяне момантамі ўжо і не заўважалі: рабілі сваё. Калі ўжо ў выніку іхніх прытулянак атмасфера вельмі накалялася, я не вытрымлівала і выходзіла. Па-мойму, маглі б прынамсі папрасіць мяне, каб я выйшла, ці даць вачыма нейкі знак. А то, быццам у звяроў якіх: гатоў быў пры мне легчы на яе. Мы нават з сяброўкай крыху пазлаваліся. Яна хацела сябраваць са мною, але ж ён быў важнейшы! Дык што дзівіцца: я ўцякала да людзей, каб не бачыць і не чуць усяго гэтага.

І здарылася бяда. Сяброўцы паведамілі, што ў яе маці здарыўся інфаркт і яна на валаску ад смерці. Трэба было ёй неадкладна ехаць дахаты. Хлопец яе, вядома, застаўся, бо яшчэ да канца змены было далёка.

Не ведаю, Сэрцайка, што сталася са мною. Абудзіўся і ўва мне нейкі звер. Здавалася, што гэты хлопец цяпер мой. Хацелася дакрануцца да яго, пацалаваць, ускудлаціць яму валасы, як гэта рабіла мая сяброўка. А ён, не сказаць, быў у адносінах да мяне вельмі мілы. Усміхаўся, глядзеў у мае вочы, цалаваў мяне ў руку, усюды хадзіў са мною. Толькі... нічога з эротыкі. Быў цвёрды, як камень. Верны сяброўцы?!.

Я не магла зразумець гэтага. Гледзячы на тое, што ён вычаўпляў з ёю, я была ўпэўнена, што пры першай жа нагодзе ён кінецца на наступную. А тут нагода надарылася, сяброўка выехала, домік быў свабодны, а ён мяне не хацеў. І гэта мне не давала спакою, а хлопец з кожным днём падабаўся ўсё больш.

Аднойчы я рашылася. Купіла ў нашай кафейцы бутэльку віна, а вечарам, калі ён мяне, як заўсёды, праводзіў да доміка, я запрасіла яго „на гарбатку". Зайшоў. Выпілі віно, гарбату. Ну, не магла я яму даравацьна гэты раз. Цалавала яго, распранала, абсыпала пяшчотамі, а ён толькі ўсміхаўся. Навошта рабілі гэта давалася, калі не хацеў мяне?! Мог жа ўстаць і выйсці...

А пасля ўсяго сказаў мне: „Дзякуй Богу, што ў мяне нічога не выйшла, інакш кепска адчуваў бы сябе ў адносінах да сваёй дзяўчыны!" Мне было сорамна і ніякавата. Раз — таму, што ён мяне не схацеў, два — што я такіх мукаў сумлення, як ён, не перажывала.

Хлопец маёй сяброўцы нічога не сказаў, і яна, як раней, прыязніцца са мною. Мама яе паздаравела, яна надалей ходзіць з тым жа хлопцам. Я аднак жа не магу глядзець ёй проста ў вочы. Што рабіць, Сэрцайка?

**Магда**

Магда! Найгорш бывае тады, калі чалавек адчувае агіду да сябе. Але можа гэта і лепш, бо прынамсі тады ён патрапіць па-сапраўднаму, аб'ектыўна асудзіць свой учынак.

Шкада толькі, што тваё раскаянне вынікае найбольш з таго факта, што гэты хлопец не ўспрыняў тваіх пачуццяў. Зараз-зараз, а як гэта было спачатку? Табе, здаецца, рабілася моташна, калі дзяўчына, твая сяброўка, рабіла са сваім хлопцам тое, што ты хацела б, але не магла рабіць... А пасля, калі ты прычапілася да яго, не было табе гадка?! Сама бачыш, што яго адносіны да цябе былі даволі сімпатычныя. Відаць, ён любіў цябе як сяброўку сваёй дзяўчыны і такую цябе шанаваў. Каханне — гэта ўсё-такі штосьці іншае.

Ты не была ў парадку ў адносінах да сваёй сяброўкі, у якой здарылася нешчасце, асмяшыла сама сябе ў вачах гэтага хлопца, але найбольш трагічнае тое, што ты сама ўбачыла сваю фальшывую натуру. Але можа так лепш. Лепш пазней, чым ніколі.

**Сэрцайка**